


1997 ВЫПУСК 4

# БАЙРАМ

КВАРТАЛЬНІК БЕЛАРУСКАГА ЗГУРТАВАННЯ
ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН "АЛЬ-КІТАБ"

بسم الله الرّحمن الرّحيم

# Байрам

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

**КВАРТАЛЬНІК БЕЛАРУСКАГА ЗГУРТАВАННЯ ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН "АЛЬ-КІТАБ"**

№ 4 7

Менск 1998

## *Салям алейкум, спадары і спадарыні, татары-мусульмане!*

Падзеі, звязаныя з 600-годдзем пасялення татараў-мусульман на землях Беларуска-Літоўскай Дзяржавы, завяршыліся ўрачыстым вечарам 29 лістапада 1997 года ў сталіцы Беларусі. Дзяржаўныя структуры і грамадскасць прынялі ў гэтым чынны ўдзел. Сродкі масавай інфармацыі сталіцы і абласных цэнтраў, раённых цэнтраў, дзе жывуць татары, знайшлі месца для добразычлівых нарысаў і нататак, за што ім удзячны як сучасныя татары Беларусі і іх адзінакроўныя браты ў Літве, Польшчы, Расійскай Федэрацыі і Украіне, так і нашчадкі.

Грунтоўныя артыкулы па татарскай тэматыцы надрукавалі навуковыя часопісы Беларусі.

Вядома, пасля кожнай падзеі, асабліва такой як свята, удзельнікамі мерапрыемства выказваюцца заўвагі, што калі б арганізатарам быў ён ці яна, то зрабіў бы так вось. Будзе вельмі цікава і патрэбна, калі свой сцэнар свята дашлюць добразычліўцы хоць бы ў рэдакцыю "Байрама". Вельмі пажадана, каб былі адзначаны такія пункты:

1. Адкуль узяць сродкі на больш грандыёзную задуму ?

2. Колькі грошаў Васпан ці Васпані маглі б даць сёння, ці хаця б дакляраваць (вядома, што калі татарын-мусульманін нешта абяцае, то абавязкова выконвае).

Вашы прапановы будуць цікавымі і карыснымі як цяпер, так і для нашчадкаў, якім адзначаць 700-годдзе пасялення татараў-мусульман на землях гасціннай Беларусі.

Спадзяюся, што знойдуцца актыўныя члены згуртавання і нашы сябры — беларусы, рускія, палякі, габрэі, якія зманціруюць шматлікія відэастужкі і зробяць відэафільм для кожнай мусульманскай абшчыны на Беларусі, каб цяпер і ў наступным была магчымасць убачыць, як і што адбывалася ў юбілейны для нас 1997 год.

На вялікі жаль, мінулы год быў адзначаны і трагічнымі падзеямі. Вялікая бура зруйнавала ці моцна пашкодзіла сотні і сотні хат і гаспадарчых пабудоў, нанесла шкоду садам, лясам, лініям электраперадачы. Аварыі на аўтадарогах скончыліся

гібеллю дзяцей — незабыўным горам для бацькоў і родных гэтых людзей, росквіт якіх быў бы ў наступным стагоддзі. Нам, мусульманам, не трэба забываць, што выкананне правілаў будаўніцтва, правілаў ваджэння сродкаў транспарту, правілаў карыстання дарогамі і вуліцамі — усё гэта вельмі важна. Самае ж важнае, гэта жыць па законах нашай веры. Трэба верыць у Аллага, трэба быць гатовым да таго, што ў любы час і ў любым месцы можа наступіць для нас апошняя хвіліна жыцця на гэтым свеце.

7 снежня памёр мусульманін, якога ведалі многія нашы супляменнікі. Гэта Ганаровы сябра Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" Ісмаіл Ісмаілавіч Меметаў.

Няхай будзе яму рай светлы !

*Салям алейкум.*



*Удзельнікам урачыстасцяў, прысвечаных 600-годдзю пасялення татар на землях Беларусі*

## *Дарагія сябры !*

У Беларусі гістарычна складаліся самыя добрыя адносіны паміж прадстаўнікамі розных нацыянальнасцяў. Тут побач жывуць і працуюць беларусы і рускія, украінцы і палякі, татары і яўрэі. Гэтым наша зямля была моцная ва ўсе часы. І гэтыя традыцыі мы беражліва захоўваем, умацоўваем і маем намер развіваць у будучыні.

Культурныя традыцыі славян і татар, якія жывуць на тэрыторыі Беларусі, у працэсе шасцісотгадовага ўзаемадзеяння значна дапаўнялі адзін аднаго, што стварала ўмовы для дынамічнага і стваральнага жыцця ўсяго насельніцтва гэтага краю.

Талерантнасць, якая традыцыйна ўласціва беларусам, стала залогам захавання беларускімі татарамі нацыянальнай самабытнасці. Працавітасцю і мужнасцю, глыбокай чалавечай прыстойнасцю татары здабылі заслужаную павагу.

За мінулыя шэсць стагоддзяў палітычная карта нашай краіны змянялася не адзін раз. Беларусь сёння — гэта маладая, сучасная дзяржава ў самым цэнтры Еўропы. Мы, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, прадстаўляючы розныя нацыянальнасці, адчуваем сябе адной сям'ёй, ад гарманічнасці і дынамікі жыцця якой залежыць не толькі будучыня нашых нашчадкаў, але і будучыня народаў Еўропы ў цэлым.

Няхай жа шэсцьсот гадоў, пройдзеныя нашымі народамі разам, стануць крыніцай гістарычнага аптымізму для ўсіх сучаснікаў, сімвалам светлых надзей і спадзяванняў чалавецтва.

Жадаю вам, дарагія суайчыннікі, а таксама ўсім удзельнікам юбілейных урачыстасцяў, вашым сем'ям, родным і блізкім здароўя, поспехаў, дабрыні і працвітання.

*29 лістапада 1997 года* **Аляксандр Лукашэнка.**

*(З газеты "Звязда", № 224 – 225 ад 29 лістапада 1997 г.)*

*Татарский общественный центр*
*Удмуртской Республики*
*Камбарское районное отделение*

## ПРИВЕТСТВИЕ-ПОЗДРАВЛЕНИЕ БЕЛОРУССКИМ ТАТАРАМ

### *Братья-мусульмане !*

По случаю 600-летия поселения татар на литовских, польских и белорусских землях примите сердечные поздравления, наилучшие пожелания и благополучия Вашим семьям.

За эти годы, хотя Вы утратили татарский язык, но сохранили Ислам и остались татарами. Об этом свидетельствует мечеть в г.п. Ивье.

В период притеснения католиками, многие татары вынуждены были уйти на юг, обосноваться в городе Констанца в Румынии и в городе Добруджа в Болгарии. Они сохранили язык Ваших предков.

Сейчас возобновился в Ваших краях интерес к изучению языка добруджских татар. Пожелаем Вам успешного освоения родного языка.

Мы рады за Ваши успехи, готовы к сотрудничеству со своими сородичами.

Принято на Камбарском районном Джиене — 97 посёлок Шолья.

*15 ноября 1997 года.*

## *Во имя Аллаха Милостивого, Милосердного!*

### *Уважаемые соотечественники !*

От имени мусульман Крыма поздравляю Вас с историческим событием — 600-летием поселения татар на землях Беларуси.

Желаю Вам здоровья, мира и добра, чтобы мы и наши дети никогда не забывали о том, что мы родные, что у нас общие корни, что у нас одна религия — Ислам.

Да поможет нам Всевышний Аллах в наших богоугодных делах !

Мир Вам, милость Аллаха и Его благословение !

*С уважением*

*муфтий мусульман Крыма*
***М. Хаджи Нурий Эфенди.***



## ПРЕЗИДИУМУ ТОРЖЕСТВЕННОГО СОБРАНИЯ, ПОСВЯЩЁННОГО 600-ЛЕТИЮ ПОСЕЛЕНИЯ ТАТАР-МУСУЛЬМАН НА ЗЕМЛЯХ БЕЛАРУСИ

Сердечно поздравляю участников собрания и всех белорусских татар с историческим событием — 600-летием поселения татар на этих землях.

Заслуги татар за 600 лет в экономическом, хозяйственном и культурном развитии Беларуси, в защите славянских земель от посягательств немецких орденов и других агрессоров хорошо известны и высоко оценены белорусским народом.

Я являюсь участником боёв за освобождение Беларуси от немецко-фашистских захватчиков. Когда была достигнута Победа, после окончания войны, прибыв из Германии, я продолжал службу в Белорусском военном округе. Служил в военных гарнизонах Бреста, Чаус, Телуши, Борисова, Лиды и Гродно. В Беларуси родились мои сыновья Джафер и Олег. Здесь трагически погиб мой старший сын Энвер. В Минске похоронена моя боевая подруга, спутница жизни — жена.

Я по национальности крымский татарин. В Беларуси я нашёл вторую Родину. Меня здесь никогда никто не упрекал, что я крымский татарин. После увольнения из рядов Вооружённых сил, в меру своих способностей, работал в системе хозяйственной деятельности. Был депутатом Фрунзенского и Московского райсове-

тов, около 10 лет был членом обкома профсоюза жилищно-бытовых органов.

Горжусь тем, что более 50 лет своей жизни проживаю среди белорусского народа. В настоящее время, по состоянию здоровья, не могу принять участие в этом собрании.

Желаю всем белорусским татарам, обществу "Аль-Китаб" возрождения национальных обычаев, традиций, национальной культуры, возрождения своего языка, успехов в изучении основ Ислама. Пусть в этом нам поможет Всевышний Аллах, скромный и благородный белорусский народ и руководящие органы Республики Беларусь.

Эсселям алейкум, достлар !

*Исмаил Меметов.*

## *Уважаемые дамы и господа !*
## *Уважаемые гости и соотечественники !*

Всю свою сознательную жизнь я придерживаюсь кредо: нет плохих наций. Это помогало мне находить общий язык с любым человеком и находить в нём друга. Подтверждением этого кредо является мирное, дружеское 600-летнее сосуществование белорусского и татарского народов. История мало знает таких примеров.

Я часто беседую с беженцами из Таджикистана о том, почему они оказались здесь. И эти женщины, оставшиеся без мужей и домашнего очага сказали: "У вас не оскорбляют человека, у вас хорошо, у вас нет войны..."

Меня поразили не эти слова, а то, что мы их не замечаем, потому что они являются нормой для нашей страны. Мне представляется необходимым внести в итоговый документ нашего форума эти страстные желания таджикских женщин. Думаю, что это желание всех женщин мира.

Мир. Что может быть лучше ! Очень хорошо это звучит у мусульман:

Мир дому твоему ! Салям алейкум !

***Александр Владимирович Шпак,***
*пенсионер, участник торжественного заседания 29 ноября 1997 года.*



# СЛОВА ВІТАЎТА ВЯЛІКАГА ПЕРАД ТАТАРАМІ Ў 1397 ГОДЗЕ

***(Прамоўлена на святкаванні 29 лістапада 1997 г. на ўрачыстым вечары з нагоды 600-годдзя пасялення татараў-мусульман на землях Беларуска-Літоўскай Дзяржавы)***

Вялікі хан каралеўства Дэшт-і-Кыпчак — Залатой Арды, высакродны чынгізід Тахтамыш, сын Туй-Гаджы !
Батыры-воі, святары, паспаліты люд !

Я, вялікі князь Вялікага Княства, сын вялікага князя Кейстута і ўнук вялікага князя Гедзіміна, няхай ім будзе рай прасветлы, звяртаюся да вас з прапановай заключыць дамову, угодную Богу, карысную нам, маёй дзяржаве, выгадную для вас.

Вялікая, багатая і прыгожая мая краіна. Бог даў нам усе выгоды, каб наш мужны, працавіты і добры народ мог добра жыць, бо лясы нашы багатыя паляўнічай дзічынай, борцямі, дзе шчыруюць меданосныя пчолы, рэкі і азёры нашыя багатыя на рыбу, пашы і сенажаці даюць корм для свойскай жывёлы, урадлівыя нівы забяспечваюць нас збожжам і ў нас заўсёды ёсць хлеб.

Адно толькі дрэнна, што суседзі нашы не выконваюць Божую запаведзь: не пажадай дабра бліжняга, не забі чалавека. Яны драпежна нападаюць на нас і нам трэба абараняцца.

Ведаючы ваш ваяўнічы і сумленны народ, які ўмее карыстацца зброяй і чэсна выконвае дамову з саюзнікамі, я спадзяюся, што ў імя агульных інтарэсаў мы будзем дзейнічаць разам супроць ворагаў, баронячы сваіх бацькоў, жанчын і дзяцей.

Ад свайго бацькі я чуў пра Акмянскую бітву з крыжакамі, калі вашы воі, якія былі ў складзе войска Кейстута, мужна змагаліся з крыжакамі.

Ведама мне і пра тое, што паміж нашымі народамі не заўсёды былі мірныя адносіны. Але пра бітву на Сініх Водах можна ўжо і забыць, бо зайшла даўнасць, больш за трыццаць гадоў.



У маім войску татары, як добрыя коннікі, могуць хутка дасягаць тых мясцін, дзе ворагі нашай дзяржавы, нечакана для нас, парушаюць нашы землі і чыняць нам шкоду. Трапныя татарскія стрэлы, арканы могуць быць карыснымі для нас у бойках з рыцарамі, якія не па-рыцарску, з грабежніцкімі мэтамі ўрываюцца на нашы землі.

Каб татары-воі не час ад часу дапамагалі майму войску, а пастаянна, яны павінны мець бацькоў, жонак і дзяцей, збудаваць сабе хаты, мець свае храмы і свае могільнікі, дзе па сваіх звычаях будуць хаваць сваіх палеглых у баях вояў і памерлых родных і блізкіх, дзе яны будуць спакойна ляжаць да Суднага Дня.

Каб татарскім сем'ям было з чаго жыць, я дам ім пашы і сенажаці, ворную зямлю, лясныя ўгоддзі, якімі іх сем'і будуць карыстацца па спадчыне. Ісламскай верай яны будуць свабодна карыстацца і гвалтоўна ахрышчанымі не будуць.

Калі некаторым татарам не ўдасца зберагчы сваіх жонак і яны не змогуць знайсці сабе пару, то я дазволю ім са згоды бацькоў мясцовых дзяўчат утварыць мяшаныя сем'і, каб людзі мелі магчымасць выконваць Божую запаведзь:



жыць і пладзіцца.

Татары, якія пажадаюць перасяліцца ў маю краіну, будуць мець сваіх камандзіраў, святароў, суддзяў. Галоўным буду я і мне ведама будзе ўсё. Слушныя просьбы татараў я буду задавальняць. Але час цяпер суровы і я патрабую ад сваіх вояў абсалютнага паслушэнства, таму ў прысутнасці Вялікага хана, у прысутнасці вашых святароў вы павінны даць прысягу на вернасць новай Радзіме. Прысягаць будзеце на вашай Свяшчэннай Кнізе перад святарамі, а хто пажадае, то можа прысягаць на мячах, як гэта было ў вас у старадаўнія часы.

Тыя, хто вырашылі адправіцца на новыя землі, станьце пад бунчук высакароднага чынгізіда Тахтамыша. Заўтра мы рушым у дарогу.

Няхай шчасціць нам Бог !

## ЗВАРОТ ДА НАШЧАДКАЎ НОВАГА ТЫСЯЧАГОДДЗЯ

Мы, удзельнікі ўрачыстага сходу, якія сабраліся 29 лістапада 1997 года ў Мінску з нагоды 600-гадовага юбілею асадніцтва татараў на землях Беларусі

— адзначаючы заслугі сваіх продкаў у захаванні на працягу стагоддзяў сваіх нацыянальных, рэлігійных і культурных традыцый,

— прызнаючы добразычлівасць, гасціннасць і талерантнасць усіх народаў, якія здаўна жывуць разам з намі на Беларусі,

— уступаючы ў новае тысячагоддзе і пачынаючы сёмае стагоддзе пасялення татараў на землях Беларусі,

Звяртаемся з урачыстым словам да сваіх нашчадкаў, якія будуць жыць у трэцім тысячагоддзі:

1. З дапамогаю Усявышняга Аллага адраджайце, захоўвайце і памнажайце нацыянальныя, культурныя і рэлігійныя традыцыі нашага татарскага народа,

2. Выкараняйце з свайго асяроддзя ўсялякія парасткі варажнечы, саперніцтва, супрацьстаяння, умацоўвайце і разві-

вайце брацкія сувязі паміж татарамі ўсяго свету,

3. Падтрымлівайце, развівайце і ўмацоўвайце дружбу, супрацоўніцтва і ўзаемапаразуменне з усімі народамі і канфесіямі. Будзьце дастойнымі грамадзянамі сваіх дзяржаў — у гэтым залог вашага росквіту і развіцця на наступныя гады.

4. Няхай Усёмагутны Аллаг дапаможа вам ва ўсіх вашых добрых справах і намерах і няхай захаваецца пра вас такая ж добрая памяць, як захавалася яна аб нашых продках.

*Прыняты ўдзельнікамі ўрачыстага сходу, прысвечанага 600-годдзю пасялення татараў на землях Беларусі. Мінск, 29 лістапада 1997 г., 18.00.*

# СВЯТКАВАННЕ 600-ГОДДЗЯ АСАДНІЦТВА ТАТАРАЎ НА БЕЛАРУСІ

Як мы ўжо адзначалі, яшчэ на пачатку 1997 г., улічваючы важкасць і значнасць 600-гадовага юбілею беларускіх татар, кіраўніцтва Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" разам з муфтэятам прынялі рашэнне аб правядзенні свята ў некалькі этапаў на працягу ўсяго года ў месцах кампактнага пражывання нашых татараў. Увогуле, на думку аналітыкаў, свята ўдалося і пакінула заметны след на шляху нашага адраджэння. Шэраг мерапрыемстваў юбілейнага года, праведзеных на Беларусі, у Літве і Польшчы з удзелам шырокага кола татарскай грамады гэтых краін, а таксама прадстаўнікоў іншых народаў, якія жывуць у добрым суседстве з татарамі, даюць спадзёўку на ўключэнне ў адраджэнцкі рух новых, свежых сіл татарскай супольнасці, абуджаюць інэртную да гэтага часу масу нашага народа.





*Мінск. Дом ветэранаў. 29 лістапада 1997 г. Пасяджэнне выканкама Сусветнга кангрэса татараў. У прэзідыуме (злева направа) старшыня Сусветнага кангрэса татараў, акадэмік І.Тагіраў, прэзідэнт Згуртавання "Аль-Кітаб" А.-Б.Шабановіч, прэм'ер міністр Татарстана Ф.Мухаметшын, старшыня дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь А.Білык, мэр г.Казані К.Ісхакаў.*

Мы лічым, што гэтаму садзейнічалі 3-я навукова-практычная канферэнцыя "Праблемы вывучэння і захавання культурнай спадчыны татарскага народа на Беларусі", праведзеная ў Мінску (сакавік 1997 г.), татарскія з'езды на мізарах ў г.п.Відзы (май), Докшыцах (ліпень), Мядзелі (жнівень), сустрэчы прадстаўнікоў татар Беларусі, Літвы і Польшчы ў Вільнюсе і Каўнасе (чэрвень), у Беластоку (верасень), адкрыццё мячэці ў Навагрудку (ліпень), Караван-Байрам у Навагрудку, Іўі і Смілавічах (ліпень). Заключным акордам святочных мерапрыемстваў з'явіліся падзеі 27 — 29 лістапада ў Мінску.

Па запрашэнні аргкамітэта па правядзенні свята і пры падтрымцы адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі, Урада і мэрыі г.Мінска, а таксама пры актыўным удзеле праўлення Згурта-

вання "Аль-Кітаб" і муфтэята ў Рэспубліцы Беларусь у Мінск прыехалі ганаровыя госці з Татарстана на чале з прэм'ер-міністрам Ф.Мухаметшыным, дэлегацыі татараў з Расіі, Польшчы, Літвы і Украіны. У складзе вялікай дэлегацыі Татарстана былі мэр г.Казані К.Ісхакаў, старшыня выканкама Сусветнага кангрэса татараў акадэмік І.Тагіраў, члены ўрада, кіраўнікі прамысловых прадпрыемстваў, артысты. У складзе дэлегацыі Масквы — віцэ-прэзідэнт дабрачыннага фонда развіцця татарскай духоўнай спадчыны "Хіляль" Р.Асманаў, муфтэй Асацыяцыі мячэцяў, імам-хатыб гістарычнай мячэці ў Маскве шэйх Махмуд-хазрат Абдулхак Велітаў. Дэлегацыі Польшчы і Літвы ўзначальвалі кіраўнікі татараў гэтых краін Я.Сабалеўскі, Ю.Канапацкі, С.Хазбіевіч, Р.Макавяцкас, Ё.Александравічус.



*Выступае прэзідэнт Беларускага згуртавання татар-мусульман Аль-Кітаб Абу-Бекір Шабановіч*

Добрыя ўражанні засталіся ва ўдзельнікаў сустрэчы, якая адбылася 28 лістапада і доўжылася цэлую гадзіну ў рэзідэнцыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнкі. На ёй з боку запрошаных удзельнічала дэлегацыя Татарстана на чале з прэм'ер-міністрам Ф.Мухаметшыным, а таксама кіраўнікі татарскіх аб'яднанняў А.Шабановіч, І.Александровіч, Б.Радкевіч. Прэзідэнт А.Лукашэнка добра гаварыў пра татар Беларусі, падкрэсліўшы іх лепшыя рысы нацыянальнага характару: любоў да працы, сціпласць, прыстойнасць, сумленнасць.



Прэзідэнт выказаў надзею на развіццё і ўмацаванне супрацоўніцтва Беларусі і Татарстана, якую падтрымаў у сваім слове ў адказ прэм'ер-міністр Татарстана Ф.Мухаметшын.

Запомнілася ўсім таксама ўрачыстая цырымонія ўстаноўкі каменя на месцы будаўніцтва будучай мячэці ў г.Мінску. А пачалася яна мусульманскай малітвай, якую прачытаў шэйх Махмуд-хазрат з Масквы. Затым выступілі з найлепшымі пажаданнямі поспехаў у будаўніцтве мячэці віцэ-прэзідэнт дабрачыннага фонду развіцця татарскай духоўнай спадчыны "Хіляль" Р.Асманаў, начальнік будаўніча-мантажнага ўпраўлення "Промбудмантаж" І.Гафіятулін, кіраўнік адміністрацыі Фрунзенскага раёна г.Мінска Л.Матусевіч, прэм'ер-міністр Татарстана Ф.Мухаметшын, старшыня выканкама Сусветнага кангрэсу татар І.Тагіраў. Пасля заключнай малітвы ўсе ўдзельнікі спецыяльным аўтобусам накіраваліся ў актавую залу Дома ветэранаў, дзе адбылася сустрэча дэлегацыі Татарстана з прадстаўнікамі татар Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны. Тут жа адбылося і паседжанне выканкама Сусветнага кангрэса татараў. Неабходна адзначыць таксама і своеасаблівы падарунак Мінгарвыканкама — да 600-гадовага татарскага юбілею было прынята рашэнне аб перайменаванні вуліцы Вілейскай у вуліцу Татарскую. Пра гэта было даведзена ўдзельнікам мітынгу, прысвечанага ўстаноўцы каменя на месцы будаўніцтва мячэці.



*Выступае старшыня Каунаскай абичыны літоўскіх татар Рамазан Макавяцкас*



*Зала ўрачыстага сходу прысвечанага 600-гадоваму юбілею беларускіх татар. Мінск, тэатр музычнай камедыі, 29 лістапада 1997 года*

Пасля завяршэння паседжання выканкама Сусветнага кангрэса татараў госці і мясцовыя жыхары накіраваліся на ўрачыстае паседжанне, прысвечанае 600-годдзю пасялення татараў на землях Беларусі. Паседжанне праходзіла ў памяшканні тэатра Музычнай камедыі. У холах тэатра была арганізавана рэгістрацыя ўсіх запрошаных на гэтую імпрэзу гасцей і ўдзельнікаў, кожнаму ўручылі памятныя значкі з эмблемай юбілею, спецыяльныя блакноты, аўтаручкі, часопіс "Беларуская мінуўшчына", у якім шэраг артыкулаў быў прысвечаны гісторыі татар. На вольных плошчах тэатра была арганізавана выстава экспанатаў, прысвечаная гісторыі і культуры татараў, накрытыя сталы з пачастункамі для гасцей.

У 15.20 пачалося ўрачыстае паседжанне. Зала была перапоўненая. Сабралася каля 1000 чалавек. Пасля чытання аятаў Свяшчэннага Кур'ана і выканання гімна Беларусі быў абвешчаны прывітальны ліст ад Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. З дакладамі і паведамленнямі на сходзе выступілі прэм'ер-міністр Татарстана Ф.Мухаметшын, віцэ-прэзідэнт фонда "Хіляль" Р.Асманаў, кіраўнікі дэлегацый польскіх і літоўскіх татар: Я.Сабалеўскі, Р.Макавяцкас. З добрымі пажаданнямі выступіў на вечары дуайен пасольскага корпуса на Беларусі, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Турцыі пан Тансу Акандан. Вёў паседжанне намеснік прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь У.П.Замяталін. Павіншаваць татараў з юбілеем прыйшлі прадстаўнікі літоўскай, украінскай, яўрэйскай, карэйскай і нямецкай суполак. Напрыканцы ўрачыстага паседжання быў абвешчаны зварот удзельнікаў сходу да нашчадкаў новага тысячагоддзя. Пасля перапынку адбыўся канцэрт з удзелам артыстаў Татарстана, Беларусі, мясцовых самадзейных калектываў і артыстаў. Ва ўсіх удзельнікаў дадзенага мерапрыемства надоўга застануцца цёплыя, глыбокія ўражанні ад усяго ўбачанага і пачутага.



Нам хацелася б выказаць словы ўдзячнасці кіраўнікам краіны, кіраўніцтву Мінгарвыканкама, кіраўнікам выканкамаў мясцовых саветаў, на тэрыторыі якіх жывуць татары, за вялікую дапамогу ў арганізацыі святочных мерапрыемстваў. Мы ўдзячны кіраўніцтву Рэспублікі Татарстан за актыўны ўдзел у нашым юбілеі на высокім урадавым узроўні. Выказваем таксама глыбокую падзяку дэлегацыям татараў Польшчы, Літвы, Расіі і Украіны, усім удзельнікам нашых мерапрыемстваў, звязаных з прайшоўшым юбілеем, падзяліўшых з намі вялікую радасць. Толькі ў згодзе, толькі разам, абапіраючыся на ўзаемападтрымку і ўзаемаразуменне, мы бачым свой шлях да нацыянальнага і духоўнага адраджэння.

## АБ УРАЧЫСТЫМ СХОДЗЕ, ПРЫСВЕЧАНЫМ 600-ГОДДЗЮ ПАСЯЛЕННЯ ТАТАРАЎ НА ЗЕМЛЯХ БЕЛАРУСІ

1997-ы год стаў для беларускіх, літоўскіх і польскіх татар адметным. У гэтым годзе яны адзначылі 600-годдзе свайго пасялення на гэтых землях. Нямала цікавага зроблена татарамі ў

1997-м годзе ў Рэспубліцы Беларусь. На высокім узроўні на базе Нацыянальнага універсітэта культуры ў сакавіку была праведзена міжнародная навуковая канферэнцыя, на якой з цікавымі дакладамі і паведамленнямі выступілі не толькі прадстаўнікі татарскай абшчыны Беларусі, але і аўтарытэтныя вучоныя рэспублікі — беларусы, рускія, палякі, яўрэі. З неаслабнай увагай былі выслуханы выступленні многіх кіраўнікоў татарскай дыяспары многіх краін свету. Удзельнікі канферэнцыі пазнаёміліся з творчасцю таленавітых прадстаўнікоў культуры і мастацтва беларускіх татар.

Заключным этапам юбілейных урачыстасцей беларускіх татар стаў вечар, прысвечаны 600-годдзю пасялення татар на землях Беларусі. Ён адбыўся 29 лістапада 1997 года ў Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі Рэспублікі Беларусь.

Зала была перапоўнена. Гледачы былі па-святочнаму апрануты, з густам, многія ў татарскіх нацыянальных касцюмах. У прэзідыуме знаходзілася ўрадавая дэлегацыя Рэспублікі Татарстан на чале з прэм'ер-міністрам Фарыдам Мухаметшыным, віцэ-прэм'ер Рэспублікі Беларусь Уладзімір Замяталін, старшыня Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Аляксандр Білык, аўтарытэтныя прадстаўнікі татарскай дыяспары, кіраўнікі Сусветнага кангрэса татар. Цікава і эмацыянальна вёў сход прэзідэнт Згуртавання "Аль-Кітаб" Абу-Бекір Шабановіч.

Для ўдзельнікаў урачыстага сходу быў дадзены цудоўны канцэрт. Выдатна выступілі калектывы як Рэспублікі Татарстан так і таленты татарскай абшчыны нашай рэспублікі.

Я радаваўся за татарскіх братоў, за тую ўвагу і аўтарытэт, якімі яны карыстаюцца сярод сваіх супляменнікаў з Татарстана, з задавальненнем даведаўся пра дапамогу, якую беларускім татарам акажа ўрад Рэспублікі Беларусь і Татарстан, міжнародныя арганізацыі.

Разам з тым хачу выказаць некалькі заўваг. На ўрачыстым сходзе вельмі мала было сказана аб гісторыі беларускіх татар, аб іх укладзе ў палітычнае і культурнае развіццё Беларусі, аб беларускіх татарах — вучоных, пісьменніках, мастаках, аб мужных франтавіках, аб удзеле беларускіх татар у партызанскім руху і антыфашысцкім падполлі. Было аб гэтым сказана толькі некалькі слоў у выступленнях А.-Б.Шабановіча і аднаго з гасцей. Аб гэтым маглі сказаць іншыя кіраўнікі нацыянальна-культурных аб'яднанняў рэспублікі. Каб прапанавалі, аб гэтым мог бы сказаць і аўтар гэтых радкоў.



Было б пажадана, каб у вестыбюлі была арганізавана выстава літаратуры аб беларускіх татарах, а таксама фотавыстаўка аб справах Згуртавання "Аль-Кітаб".

Вельмі хораша, што некаторыя нацыянальныя меншасці выступілі на канцэрце са сваімі нумарамі. Але было б яшчэ лепш, каб арганізатары мерапрыемства пастараліся паказаць выступленне ўсіх або большасці нацыянальна-культурных аб'яднанняў на Беларусі.

На вялікі жаль, у ўдзельнікаў вечара не было праграмы канцэрта. І яшчэ. Гардэроб тэатра не змог абслужыць такую колькасць гледачоў і многія былі вымушаны ці сядзець у верхняй вопратцы, ці сядзець на паліто і футрах. Аб гэтым трэба было падумаць загадзя.

Але гэта не галоўнае. А галоўнае, што лепшыя прадстаўнікі беларускіх татар, якія прадстаўлялі 12,5 тыс. сваіх братоў і сясцёр, адчулі гордасць за тое, якой увагай яны былі атулены як у Рэспубліцы Беларусь, так і за яе межамі.

Шчасця вам, здароўя, поспехаў і ўдачы на беларускай зямлі і ў наступныя стагоддзі жыцця ! Каб будучыя пакаленні беларускіх татар былі больш шчаслівымі, чым сучаснае !

***Эмануіл Іофе.***

## МАЁ ЎРАЖАННЕ АБ СВЯТКАВАННІ 600-ГОДДЗЯ ПАСЯЛЕННЯ ТАТАР НА БЕЛАРУСІ

Я ўдзячная ўсім арганізатарам гэтага свята, якія з думкамі аб Аллагу дзеля Ісламу рыхтавалі гэту падзею. Дзякую гасцям, якія прыехалі, каб раздзяліць радасць беларускіх татараў.



*Выступае старшыня мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Польшчы Ян Сабалеўскі*

Агульнае ўражанне ад свята добрае. Найбольшую радасць прынесла цырымонія заснавання мячэці. Усявышні зрабіў для нас гэты дзень надзіва прыгожым: сонечным, цёплым і ціхім. Дрэвы, прыбраныя ў шэрань, белы, чысты снег навокал узмацнілі радасць. Урачыста гучалі словы з Кур'ана і яны ўсялілі надзею ў сэрцах мусульман. Прыемна было бачыць твары вернікаў. Яны са словамі малітвы клалі грошы для пабудовы мячэці.

Мне не вельмі спадабалася перабольшаная ўвага да гасцей з Татарстана, што адбылося як бы за кошт меншай гасціннасці да мусульман з Польшчы, Літвы, Украіны і інш. Я разумею прычыну гэтага, але можна было не падпарадкоўваць усіх распарадку прыёму ўрадавай дэлегацыі і даць магчымасць іншым гасцям паказаць усё, што яны прывезлі (канцэртныя нумары, відэакасеты). Не спадабалася спешка і таўкатня, і нямкасць вакол сувеніраў і засланых сталоў у буфеце.

Вынік святкавання не варты намаганнняў, патрачаных на гэта, і выклікае ўсмешку. З-за гэтага зусім стушаваліся выступленні артыстаў у фае і не было магчымасці ацаніць выставу карцін і іншых экспанатаў.

Я лічу, што сувеніры трэба было падараваць ганаровым гасцям і тым татарам, якія не маглі прысутнічаць на святкаванні па розных прычынах (службовыя абавязкі, хвароба). Астатнія маглі задаволіцца тым, што самі былі на святкаванні і ўсё бачылі.



Не спадабалася, што на запрашальных білетах стаіць слова Аллаг. І цяпер гэты білет мусульманіну трэба беражліва захоўваць вечна, або спаліць, але ж гэтага многія не ведаюць.

А ўастатнім — усё добра, усё добра !

***Фаўзія Ахмадулліна.***

# СВЯТОЧНЫЯ ЎРАЧЫСТАСЦІ

29 лістапада мне пашчасціла прысутнічаць на ўрачыстасцях, прысвечаных 600-годдзю беларускіх татар. Узрост падзеі — паважаны. Яе ўпрыгожылі ў ліку іншых запрошаныя віцэ-прэм'ер РБ Уладзімір Замяталін, лідэр КПБ Віктар Чыкін. Расійскі пасол Валерый Лашчынін, седзячы ў прэзідыуме, уважліва слухаў прамову прэм'ер-міністра Татарстана і час ад часу, чуючы свежыя яго думкі адносна пашырэння эканамічных сувязей Татарыі з РБ, якая не спяшаецца аднаўляць у сябе капіталізм, рабіў запісы.

Зала з ухвалай выслухала слушныя разважанні пасла Турцыі ў РБ. Прэзідэнт Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" вітаў свой народ і дзякаваў беларусам за мірнае суіснаванне. Адбыўся цудоўны канцэрт, у якіх на роўных супернічалі высокае майстэрства і дэцыбелы.

Жанчынам-татаркам было прапанавана (яшчэ да ўрачыстага вечара) прыйсці абавязкова ў хустках (але пакуль што без паранджы). Былі накрыты сталы ў буфеце. Як казалі старажытныя рымляне, Sero Venientibus ossae, але кавалачак яблыка дастаўся і мне. Дарэчы, чаму праз 600 гадоў мы павінны дзякаваць іншым нацыянальнасцям Беларусі за мірнае суіснаванне? Мы што, усё яшчэ дагэтуль не частка беларускай нацыі? Ці ёю былі толькі нашыя продкі, якія абаранялі межы Беларусі ад іншаземных захопнікоў? Ці баронім мы нашу Радзіму – Беларусь цяпер? Ці захоўваем, зберагаем і абагачаем яе мову і культуру, яе палітычны і эканамічны суверэнітэт, як гэта рабілі нашыя продкі, збярогшы ў тым ліку ў Кітабах старабеларускую мову ?

Сучасная гісторыя задае нам шмат пытанняў. Нашыя адказы на іх будуць яе працягам.

Хачу шчыра падзякваць кіраўніцтву "Аль-Кітаба" і адпаведным органам улады Рэспублікі Беларусь за шэраг мерапрыемстваў у гонар 600-годдзя беларускіх татараў. Будзем спадзявацца, што і праз 100 гадоў ***будзе*** Беларусь, ***будуць*** беларускія татары і ***будуць*** урачыстасці.

А сёння мы — беларускія татары — імкнемся ўнесці дастойны ўклад у развіццё эканомікі і культуры нашай Радзімы — Беларусі.

Жыве Беларусь ! Жывуць беларускія татары !

***Лейла Ластайская.***

## ПОМНІЦЦА ТОЕ , ШТО ЎРАЗІЛА

Салям алейкум — усім, хто ў слове бачыць не толькі сродак зносінаў, але яшчэ і справу, учынак. Калі быў я ўганараваны прысутнасцю на свяце, то справай гонару, святою справаю лічу водгук на яго. Радуюся, што апынуўся 29-га лістапада 1997-га году ў аўры хвалюючай і незабыўнай падзеі, прысвечанай 600-годдзю пасялення татараў на землях Вялікага Княства Літоўскага.

Шмат што ўразіла мяне на гэтым свяце. Па-першае, тое, што вялікая зала Менскага тэатра музкамедыі была поўная як вока — не пуставала ніводнае месца. Сярод татараў тут знаходзілася нямала беларусаў, людзей іншых нацыянальнасцей ; сустрэў я цэлую кагорту пісьменнікаў — Ніла Гілевіча, Міколу Аўрамчыка, Галіну Каржанеўскую, Вячаслава Рагойшу, Уладзіміра Содаля, бачыў Радзіма Гарэцкага, іншых прадстаўнікоў творчай і навуковай інтэлігенцыі. Па-другое, запомніўся дыяпазон урачыстацяў: тут гучала многа моў — татарская, беларуская, украінская, польская, руская, нямецкая ды іншыя. Па-трэцяе, нельга было не заўважыць талерантнасці тутэйшых татараў: у гэтай якасці, мне здаецца, нават беларусаў пераўзышлі яны, найперш прэзідэнт нацыянальнага аб'яднання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" А.Шабановіч, які так часта выказваў пачуцці добразычлівасці і ўдзячнасці і якому належаць словы: "Мусульманін той, чый язык і чые рукі нікому не прыносяць шкоды".



Гэта — першыя ўражанні, зусім відавочныя, інакш кажучы — аб'ектыўныя, пра якія можа сказаць кожны, хто прысутнічаў на юбілейных урачыстасцях.

Пра што ж найбольш думалася на святочнай вечарыне? Пра гераічнае мінулае, пра высакародны ўчынак татараў, якія 600 гадоў таму пасяліліся на землях ВКЛ, куды ўваходзіла сёняшняя Беларусь, пасяліліся, каб бараніць княства ад агрэсіўных захопнікаў. Думалася з хваляваннем пра нацыянальную меншасць, якая на працягу ажно шасці стагоддзяў не страціла сябе, бо не выракласе свайго этнасу, не адмовілася ад гісторыі, культуры, мовы, звычаяў продкаў, сваіх далёкіх прашчураў і — міжвольна — думалася-мроілася з надзеяй пра цяперашнюю меншасць нацыянальна свядомых беларусаў на сваёй этнічнай радзіме, пра непараўнана большыя магчымасці беларусаў захаваць і перадаць нашчадкам сваю мову, сваю каласальную культуру, духоўную спадчыну.

Што ж асабліва парадавала з убачанага і пачутага на ўнікальным свяце? У Менску будзе мячэць (ёсць дасканалы макет, пакладзены камень на месцы яе ўзвядзення), у нашых беларускіх татараў ёсць свой гімн! Стваральнікі гімна — Якуб Якубоўскі і Дзінара Мазітава, таленавітая юная кампазітарка з Ліды.

У сувязі з гэтым не магу абмінуць выказвання на ўрачыстым сходзе пасла Турцыі Тансу Акандана. "Да беларускіх татараў не падыходзіць слова "дыяспара" ці паняцце "нацыянальная меншасць", — заявіў дыпламат, — яны — самая што ні на ёсць сапраўдныя, карэнныя жыхары зямлі беларускай". Што сапраўдныя і ўжо даўно карэнныя, як кажуць, — факт. Але ж калі шаноўны пасол ліе ваду не на той млын, то гэта здзіўляе. Прынамсі, мне падалося: з ягонай прамовы павеяла нібыта бальшавіцкім скразнячком ці ледзь не камуністычным пафасам адносна зліцця моў... Буду рады, калі мне дакажуць, што маё такое ўражанне — суб'ектыўнае.

Свядомы беларус ніколі не будзе вітаць асіміляцыю татараў, ён будзе шанаваць іх этнічную вернасць. Мы будзем спрыяць адраджэнню на Беларусі татарскага этнасу, дапамагаць дарагім сябрам, для якіх лёс татарскай нацыі і лёс беларускай нацыі — непадзельныя. Ад гэтага толькі пабагацеем духоўна.

Нам цяпер (мо як ніколі дагэтуль) асабліва важныя прыклады дзейснага нацыянальнага адраджэння. Мы дужа зацікаўленыя, каб нашы беларускія татары захоўвалі сваё нацыянальнае аблічча. Мне бачыцца выключна важкая роля іх сувязяў з этнічнаю радзімаю — Татарстанам.

Уразіла мяне мастацка-гістарычная выстава, што была прывезена з Казані, парадавалі паказчыкі вытворчай дзейнасці Татарстана на фоне расійскіх, — маю на ўвазе пачутае з вуснаў прэм'ер-міністра Татарстана Фарыда Мухаметшына, які выступіў на святочным сходзе.

Думаецца, лагічна будзе завяршыць празаічнае слова вершаваным. Хай прагучыць яно акордам аптымістычнай, жыццесцвярджальнай мелодыі дружбы паміж народамі, людзьмі, той свяшчэннай мелодыяй, што заўсёды гучыць у маёй душы.

*У Казані, у Татарстане,*
*Жыве сябра мой.*
*Пісьмы піша,*
*і нядаўна*
*Мне прыслаў пісьмо.*
*Пра сябе распавядае*
*Мне, як брату брат.*
*Ён такі цудоўны сябра*
*З іменем Булат.*

*Ні адлегласць, і ні межы,*
*І ні цяжкі час*
*Не зруйнуюць нашай дружбы,*
*Не разлучаць нас.*

***Васіль Жуковіч.***

# МАЕ ЎРАЖАННІ АД ЮБІЛЕЮ

29 лістапада 1997 года Тэатр музычнай камедыі прымаў не традыцыйных сваіх сяброў, прыхільнікаў аперэты, а сяброў беларускіх татараў і саміх татараў — удзельнікаў урачыстага сходу, прысвечанага 600-годдзю асадніцтва татараў на землях Беларусі. Урачысты сход быў завяршальным у шэрагу мерапрыемстваў, прысвечаных гэтай адметнай падзеі. Дазволім сабе выкарыстаць тэатральную лексіку, каб падкрэсліць, што ў гэты дзень у тэатры быў поўны аншлаг: зала тэатра, разлічаная на 800 гледачоў, была перапоўненая. З усіх месцаў кампактнага





*Мастак К.Сайфугалiеў з Віцебска*

пражывання татар прыехалі на свята людзі. Прыбылі таксама госці з Польшчы і Літвы, каб далучыцца да агульнага для нас свята. І ўпершыню, можа нават за 600 год, прыбыла афіцыйная дэлегацыя з Татарстана на чале з прэм'ер-міністрам Ф.Х.Мухаметшыным.

Сярод запрошаных найперш былі прадстаўнікі беларускага народа. Яны нашы галоўныя госці і спрадвечныя сябры, аб чым красамоўна сведчыць шматвяковая гісторыя нашага суіснавання.

Запрошаны былі прадстаўнікі нацыянальных меншасцей, установ культуры. Не проста гасцямі, а арганізатарамі святкавання былі дзяржаўныя ўстановы: Рэспубліканскі цэнтр нацыянальных культур, Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцяў. У наш складаны ў вельмі многіх адносінах час цяжка разлічваць на рэальнае ўвасабленне задуманага без падтрымкі дзяржаўных установ. У нашым выпадку падтрымка была дзейсная.

Неаднойчы яшчэ мы будзем вяртацца да гэтай падзеі. У гэтым артыкуле мы раскажам аб выставах, якія былі падрыхтаваныя да свята. Выстава — гэта тое, што неабходна глядзець. Глядзець на гэты раз было што і, што вельмі прыемна, было каму.



*"Каля крыніцы".*
*Мастачка М.Ш.Сайфугалiева*
*з Віцебска.*

Выстава складалася з некалькіх раздзелаў. Як належыць гаспадарам, пачнём з таго, што было прывезена з Татарстана і што татары маглі толькі марыць убачыць без неабходнасці выезду з Беларусі. Па ініцыятыве Фаяза Фаізава, паэта з Татарстана і шчырага сябра беларускіх татараў, на Беларусь былі прывезены экспанаты з фондаў Дзяржаўнага музея Татарстана. Гэта і старадрукі, і прадметы культавыя, і некаторыя рэчы з нацыянальнага ўбора, і ўпрыгожванні. Усё вельмі каштоўнае як у сэнсе адзінкавасці, так па майстэрству выканання і па выкарыстаных матэрыялах. Людзі, якія такія прадметы стваралі, як і тыя, хто іх захоўвае — людзі высокай культуры, вялікія ўмельцы і дастойныя ў сваіх чалавечых праяўленнях.

Другая міні-выстава, якую прывезлі з Татарстана — мадэлі машын Волжскага аўтамабільнага завода. Ад яе доўга не адыходзілі не толькі дзеці, але і дарослыя, асабліва мужчыны. Вось чаму мог пазайздросціць нават самы масціты калекцыянер.





*"Стабікэ — жонка муллы"*
*Мастачка М.Ш.Сайфугалiева*
*з Віцебска.*

З беларускага боку былі падрыхтаваны невялікія выставы кніг і дакументаў, якія пры гэтым маглі даць уяўленне аб жыцці нашага народа на беларускай зямлі. Вось пералік таго, што надалей можна пашыраць і паглыбляць у розных накірунках, ствараючы выставы Кур'анаў, Кітабаў, Мугіроў, гістарычных карт, радаводаў, гербаў, культавых прыналежнасцей, матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці выдатных прадстаўнікоў татар, фотавыставы культавых збудаванняў, а таксама фотавыставы, расказваючыя аб I фестывалі нацыянальных культур, "Караван-Байраме", экспедыцыях па месцах кампактнага пражывання татар і інш. Усё пералічанае было прадстаўлена, праўда, з улікам пэўных абставін, вельмі абмежавана на нашым свяце.

Асобна спынімся на мастацкай выставе. Яна складалася з прац Айшы Александровіч, Галіі Багацієвай, Яўгена Саматыя, Бекіра Смольскага з Мінска, Эміра Асановіча з Маладзечна, Маргарыты і Канафія Сайфугалiевых з Віцебска.

Эмір Асановіч з Маладзечна прывёз толькі адзін твор — "Партрэт стрыечнай сястры". Міжволі ўспамінаецца чутае ўжо не аднойчы ў дачыненні да творцаў меркаванне аб тым, што калі б чалавек стварыў толькі адзін пэўны твор, то гэтага было б дастаткова, каб успамінаць аб ім і яго аўтары. Эмір Асановіч напісаў не адну карціну, але калі б прыйшлося рабіць выставу аднаго яго твора, то напэўна быў бы абраны менавіта гэты партрэт. На жаль, недахоп месца не дазволіў нам вылучыць яго асобна. Але перад партрэтам хочацца затрымацца, угледзецца

ў твар дзяўчыны ці маладой жанчыны. Злёгку высвечаны на карціне твар і прыглушаны фон стварае ўражанне ціхага надвячорка, настройвае нас задуменна, уцягваючы ў агульны настрой твора. Маладая жанчына не прымае мітусні. Не прымае яна і ніякай штучнасці, як у знешнім сваім аблічы, так і ў позе, рухах, хутчэй усяго і ў словах. Залішняя словаахотлівасць, кідаючыеся ў вочы ўпрыгожванні, жадданне быць навідавоку і лавіць на сабе шматлікія позіркі не ўласціва большасці татарскіх жанчын, выхаванных па-мусульманску. Таму, гледзячы на партрэт, мы адчуваем блізкасць нам гэтай жанчыны-дзяўчыны, бачым у ёй сваю маці, сястру, знаёмую. І, безумоўна, мы бачым перад сабою твор мастацтва !

Працы Галіі Багацієвай выкананы ў татарскай народнай традыцыі. Па шоўку і аксаміту вышыўка шаўковымі ніткамі і бісерам. Тэматыка філасофская і агульначалавечая: дрэва жыцця, тры сусветныя рэлігіі і іх суіснаванне, разнастайная сімволіка. Галія Багацієва праз свае працы ўдзельнічае ў грамадскіх рухах. Яна гатова стварыць гурток для навучання дзяцей вышыванню, што будзе яшчэ адной сцежкай на шляху нацыянальнага выхавання.

Яўген Саматыя — чалавек цікавага лёсу. Карэнны мінчанін, выпускнік Віцебскага мастацкага вучылішча. Яго жыццё абарвалася на фронце ў час Вялікай Айчыннай вайны. Да вайны ён ужо паспеў стаць членам саюза мастакоў. Яго малюнкі — сведкі жыцця даваеннага Мінска і Віцебска. Жыў ён у Мінску на Татарскіх агародах, таму на малюнках мы бачым і татарскія дамкі, і Мінскую мячэць. Гэта вельмі каштоўны скарб. Сям'я Саматыяў беражна захоўвае яго архіў.

З работ Бекіра Смольскага мы выбралі для выставы твор, які носіць назву "З продкаў". Цёмнаскуры твар жанчыны, яе вочы, абрамляючае галаву і плечы адзенне. Непатрэбна вызначаць, да якой нацыянальнасці належыць гэтая жанчына. Яна — з агульных продкаў чалавецтва, асабліва калі ўзгадаць меркаванні вучоных, што наша прарадзіцельніца Хава (з Кур'ана імя Ева) была цёмнаскурай.

Муж і жонка з Віцебска Маргарыта Шахіеўна і Канафій Сайфугалієвіч Сайфугалієвы — адкрыццё і вельмі каштоўная знаходка для згуртавання "Аль-Кітаб". Самому Віцебску яны



ўжо добра знаёмыя, прызнаныя вядучымі віцебскімі мастакамі-прафесіяналамі. А пачалі яны маляваць пасля выхаду на пенсію Працы Канафія Сайфугалієва, у асноўным пейзажы, прываблівають сваімі колерамі. Творы Маргарыты Шах, так яна падпісвае свае працы, — вялікая радасць творчасці, шчасце перадаць свой свет праз мастацтва. Гэта радасць і шчасце паглынае і гледача. Яе творы хочацца разглядаць, іх трэба чытаць, бо там ёсць і словы, каля іх шукаеш сабе суразмоўцу. Яны — як свежы подых, як чысты напамін дзяцінства, як першыя светлыя пачуцці. Афіцыйна падобнае мастацтва называюць наіўным. Наіўнасць Маргарыты Шах у нязбэшчанасці яе светаўспрымання, яе творы заклікаюць да ачышчэння сябе і свету. Размовы аб гэтай творцы ў нашым часопісе яшчэ наперадзе. А найлепшым пачаткам, на наш погляд, будзе размова-маналог самой мастачкі.

Самай "нетатарскай" на нашей выставе была Айша Александровіч. Мы маем на ўвазе тыя працы, якія яна прадстаўляла. Працы — эскізы касцюмаў для Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі, для некаторых іншых ансамбляў танца, а таксама харавых калектываў. У асноўным — гэта беларускі касцюм. Касцюм, які мае сваю адметнасць як у вонкавым успрыняцці, так і ва ўнутранай, ажыццёўленай рухамі, напоўненасці, якую міжволі задае выканаўцам Айша Александровіч. Ствараючы касцюм, Айша праходзіць з ім усе этапы нараджэння, паступова ўдыхае ў яго жыццё: малюе эскіз, актыўна ўдзельнічае ў выбары, а то і стварэнні неабходных тканін, прысутнічае на рэпетыцыях, каб убачыць, як "паводзяць" сябе касцюмы на артыстах ансамбля. Толькі пасля гэтага касцюм гатовы прадстаць перад гледачом. Мастацтвазнаўцы, падкрэсліваючы адметнасць касцюмаў Айшы, гавораць, што яны вельмі вытанчаныя, шляхетныя, у іх жыве душа аўтара. Айша ж гаворыць, што яе душа, яе існасць ад яе татарскіх продкаў, ад іх традыцый, рэлігіі, а таксама ад гэтай зямлі — яе рытму, мовы, культуры. Немагчыма не ўзгадаць, што на нашую выставу мастацкія працы Айшы Александровіч былі перавезены з Палаца мастацтваў, з яе персанальнай юбілейнай выставы, на адкрыцці якой прысутнічалі некаторыя з Вас, паважаныя чытачы "Байрама". На выставе мы мелі магчымасць бачыць не толькі эскізы кас-

цюмаў, але і самі касцюмы, ажыўшыя з дапамогай студэнтаў Беларускай політэхнічнай акадэміі, вучняў Айшы Браніславаўны. А на нашым святочным вечары завяршальным нумарам канцэртнай праграмы быў "Татарскі танец" у выкананні Дзяржаўнага ансамбля танца, адзін з шасці танцаў "Карагода сяброў". Карагодам сяброў можна назваць усё наша свята. Таму мы ўдзячныя кожнаму, хто быў на ім, каму яно запомнілася, выклікала станоўчыя ўражанні ці нязгоду з нечым. У гэтым выпадку шчыра жадаем Вам, каб нашыя поспехі былі для Вас прыкладам для пераймання, а няўдачы — магчымасцю пазбегнуць сваіх памылак.

Наш артыкул — напамін усім тым, хто быў удзельнікам завяршальных мерапрыемстваў — выніка вялікай папярэдняй працы кіраўніцтва "Аль-Кітаба", муфтэята, а таксама многіх татар і не толькі татар. Гэта і заклік да тых, хто неабыякавы да жыцця свайго народа, мае намер актыўна ўдзельнічаць у нашых агульных справах так, як сам гэта можа і разумее, ці з дапамогай іншых.

Няхай дапаможа Вам Аллаг!

***Р. Александровіч.***

## КНЯЗЬ ВІТАЎТ НЕ ПАМЫЛІЎСЯ

У мінулую суботу сотні цёмнавокіх і смуглявых нашых суайчыннікаў сыходзіліся к Дзяржаўнаму тэатру музычнай камедыі. Тут былі і простыя людзі здалёку, і сталічная інтэлігенцыя, і ўрадавая дэлегацыя з Татарстана: татары Беларусі святкавалі 600-годдзе пражывання на нашай зямлі.

Як прынята ў мусульманскіх народаў, сход адкрыў мулла. Прэзідэнт Беларускага аб'яднання татар "Аль-Кітаб" А.Шабановіч таксама працытаваў тое-сёе з Кур'ана. Напрыклад, гэта: "Не будзьце падобнымі на тых, хто забыўся пра Бога, а Бог зрабіў так, што яны забылі саміх сябе". Асеўшы на беларускай зямлі, татары не прасілі для сябе нейкіх прывілей, але і не лічылі сябе ніжэй за іншых. А захавацца ім дапамагла рэлігія. Вось чаму стала важнай падзеяй закладка каменя ў падмурак мячэці, якая пабудуецца ў Мінску, і макет якой красаваўся ў прэзідыуме.

Паміж афіцыйнымі віншаваннямі прэзідэнта РБ, расійскага





*Мінск. Тэатр музычнай камедыі. 29 лістапада. Прэзідыум урачыстага сходу, прысвечанага 600-годдзю асадніцтва татараў на Беларусі. Фота І.Лошака.*

міністра і Уладыкі Філарэта (усе былі агучаны іншымі асобамі — У.Замяталіным, В.Лашчыліным, А.Алешкам) хораша прагучала выступленне кіраўніка дэлегацыі, прэм'ер-міністра Татарстана Ф.Мухаметшына. Вядомы як чалавек прагрэсіўных поглядаў, інтэлектуал і прыхільнік рэформаў, ён паказаў і сваю абазнанасць у гісторыі беларускіх татар. Выказаўшы падзяку кіраўніцтву РБ за дзяржаўны ўзровень святкавання (у падарунак прывезены дыван з выявай Казанскага крамля), прэм'ер-міністр пазнаёміў прысутных з сённяшнім днём рэспублікі, якая сёлета адзначыла сёмыя ўгодкі дэкларацыі аб суверэнітэце. За кароткі час Татарстан набыў рэальныя правы і паўнамоцтвы, займеў дыпламатычныя прадстаўніцтвы ў ЗША, Францыі, Турцыі і многіх іншых краінах свету. Спынены спад вытворчасці, поўным ходам ідзе канверсія, сёлетнія ўраджаі збожжавых лепшыя, чым на Кубані, мінімальны заробак у чатыры разы большы, чым у цэлым па Расійскай Федэрацыі, праводзіцца ў жыццё ідэя сацыяльна зарыентаванай рынкавай эканомікі. Асцярожнасць у правядзенні рэформаў зблізіла нашы народы, заўважыў высокі госць.

З іншых выступленняў, якія прагучалі, — старшыні выканка-

ма Сусветнага кангрэсу татар, пасла Турцыі ў РБ, прадстаўнікоў татарскіх дыяспар Літвы і Польшчы — яскрава вынікала, што вялікі князь Вітаўт у свой час не памыліўся, запрасіўшы воінаў хана Тахтамыша на службу ў ВКЛ.

На заканчэнне голосам Левітана лідэр беларускіх татар зачытаў зварот да нашчадкаў будучага тысячагоддзя. Там былі і такія словы: "Адраджайце і беражыце рэлігійныя і культурныя традыцыі, вынішчайце парасткі саперніцтва, мацуйце дружбу з усімі народамі і канфесіямі". Наконт саперніцтва сказана выдатна, нас нічому падобнаму, здаецца, не вучылі.

Паміж урачыстай часткай і канцэртам удзельнікі сходу частаваліся нацыянальным печывам, аглядалі шматлікія выставы, слухалі народныя мелодыі, дзяліліся навінамі і ўражаннямі. У гэтай бочцы мёду была толькі адна лыжка дзёгцю: мова народа, з якім за 600 год зрадніліся татары, на ўрачыстым паседжанні чамусьці аказалася забытай.

*(З газеты "Літаратура і мастацтва", № 49 ад 5 снежня 1997 г.)*

## ГЭТАГА ВЕЛЬМІ ДОЎГА ЧАКАЛІ. МОЖА, 600 ГОД

Вечарам 29 лістапада ў зале мінскага Тэатра музычнай камедыі знайсці хоць адно свабоднае крэсла было немагчыма. Прыўзняты настрой, што суседнічаў са спакойнай годнасцю, ствараў тую святочную аўру, што нябачна ахутвала прысутных: татары ўрачыста адзначалі 600-годдзе пасялення на землях Беларусі. Адказнасць моманту адчувалі ўсе ўдзельнікі сходу: і паважныя старыя, і вёрткая, цікаўная дзятва. Можа таму, што, як сказаў пажылы мінчанін з ордэнскімі планкамі на грудзях, былы вайсковец Фазым Нугуманаў: "Гэтага вельмі доўга чакалі". Чакалі, вядома, не толькі юбілейных урачыстасцей, у першую чаргу — прызнання на самым высокім узроўні несумненных заслуг народа ў жыцці краіны, што стала для многіх пакаленняў татар не другой радзімай, а проста — Радзімай. Нездарма пасол Турцыі Тансу Акандан так і сказаў: "Да беларускіх татар зусім не падыходзіць слова "дыяспара" ці паняцце "нацыянальная меншасць", яны — самыя што ні на ёсць сапраўдныя, карэнныя жыхары зямлі беларускай". Што ж, збоку заўсёды лепш відаць. Ды ніхто, уласна, і не збіраецца спрачацца з паважаным спадаром паслом, таму што яго словы абсалютна справядлівыя.



Многія ў той вечар прыйшлі ў тэатр разам з дзецьмі: няхай глядзяць, слухаюць — ім жа працягваць далей няпростую справу адраджэння. Цяжка сказаць, ці ўсе, хто сядзеў у той дзень у зале, разумелі і гаварылі па-татарску, але тое, што татарская культура на Беларусі не загінула, змагла прайсці скрозь шэсць стагоддзяў і захаваць імпульс для далейшага ўдасканалення, — відавочна. Адным з пацвярджэнняў таму стала выступленне на вечары нацыянальных самадзейных мастацкіх калектываў. Гродзенскі ансамбль "Кубалягем" ("Матылёк") вабіў маладосцю многіх сваіх удзельнікаў, дзе было нямала вясёлых хлопчыкаў і дзяўчынак 8 — 10 гадоў, якія з захапленнем танцавалі і спявалі нацыянальныя песні. Увогуле, як падкрэсліла кіраўнік ансамбля Г.Весніна, работа з татарскай моладдзю ў Гродне вядзецца досыць актыўна: акрамя нацыянальнага мастацтва, юнакоў і дзяўчат знаёмяць з гісторыяй народа, рэлігійнымі традыцыямі.

Сучаснаму развіццю татарскага этнасу ў Беларусі ў значнай ступені садзейнічала і, несумненна, будзе садзейнічаць далей міжканфесійная згода ў краіне, адсутнасць рэлігійнай варожасці. Ва ўрачыстам сходзе прыняў удзел прадстаўнік праваслаўнай царквы, які перадаў татарам-мусульманам прывітанне ад Патрыяршага Экзарха, Мітрапаліта Філарэта. Падкрэслівалася асаблівая важнасць узаемаразумення хрысціян і мусульман для дабрабыту ўсяго грамадства.

На свяце прысутнічала таксама нямала гасцей з іншых краін: прэм'ер-міністр Татарстана Фарыд Мухаметшын, прадстаўнік Сусветнага кангрэсу татар Індус Тагіраў, пасол Расіі Валерый Лашчынін, старшыня таварыства "Татары Літвы" Рамуальдас Макавяцкас, старшыня мусульманскага аб'яднання ў Польшчы Ян Сабалеўскі. Музей нацыянальнай культуры з Казані прывёз невялікую мастацка-гістарычную выставу, якая была разгорнута ў адным з фае тэатра — жывапісныя палотны,

тарскай моладзі з'явіліся Багушэвіч А.С., Багушэвіч Т.С., Абрамовіч Д.І., Ждановіч Н.Я., Канапацкі З.І., Канапацкая З.І., Рафаловіч Д.І., Смольскі С.А., Радкевіч Б.Я., Хасяневіч Р.А., Хасяневіч Р.А., Шабановіч Д.М., Шункевіч В.Р., Шункевіч С.Р., Янец В.В., Якубоўская А.М., Янчанка П.Р.

Запрашаем усіх жадаючых уступаць у нашую арганізацыю.

Тэлефоны для даведак: 274-12-38; 252-01-67.

## ОБЪЕДИНЯЮТСЯ МОЛОДЫЕ ТАТАРЫ. ЧТОБЫ ЖИТЬ СТАЛО ВЕСЕЛЕЙ

*Министерством юстиции зарегистрирован устав ещё одной общественной организации — Белорусского регионального объединения татарской молодёжи (БРОТМ).*

По замыслу её учредителей, эта самостоятельная неправительственная независимая самоуправляемая организация должна объединить проживающих на территории Беларуси молодых людей, хотя бы отдалённо связанных родством с татарами, для возрождения их древних традиций и культуры, а также для создания условий для всестороннего развития татарской молодёжи.

Среди основных задач БРОТМ — защита прав и законных интересов её членов как национального меньшинства, забота об их культурном и этническом развитии, активное участие в изучении, возрождении и сохранении национальных традиций татар, исторически проживающих на территории республики, укрепление дружбы между народами, противодействие любым проявлениям национальной розни, участие в реставрации исторических и культурных памятников, воспитание у молодёжи высокой культуры межнационального общения, поддержка её в новых экономических условиях.

***Розия Тохта-Ходжаева.***

*(З газеты "Рэспубліка")*



## КАМПАЗІТАР І ПЕДАГОГ



*Віталь Радзівонаў*

Чытачы "Байрама", якія напрыканцы лістапада былі на ўрачыстым вечары, прысвечаным 600-годдзю пасялення татараў на землях Беларусі, Літвы і Польшчы, пытаюць у нас, як пазнаёміцца ім з настаўнікам Дзінары Мазітавай. А можа і ў іх дзяцей ён адкрые кампазітарскія здольнасці? Адразу мы адказаць на гэтае пытанне не змаглі, але цяпер ужо можам надрукаваць кароткую даведку.

Віталь Канстанцінавіч Радзівонаў нарадзіўся ў Ваўкавыску 21 чэрвеня 1946 г. Кампазітар, напісаў тры оперы, некалькі дзесяткаў твораў камернай музыкі. Журналіст, які мае больш за 120 публікацый пра музыку. Ініцыятар і арганізатар Міжнароднага конкурсу юных і маладых кампазітараў "Надзея", які праводзіўся ў Гародні ў 1992, 1993, 1994 і 1996 гадах. Абраны старшынёй Асацыяцыі кампазітараў Гродзеншчыны. З'яўляецца выкладчыкам сачынення музыкі ў Гродзенскім і Лідскім музыкальных вучылішчах, Лідскай музыкальнай школе.

Сярод вучняў Віталя Канстанцінавіча — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі кампазітар Андрэй Бандарэнка, лаўрэаты міжнародных і ўсесаюзных конкурсаў гітарысты і кампазітары Валеры Жывалеўскі, Уладзімір Захараў, Дзяніс Асімовіч, кампазітары Яўген Паплаўскі, Мікалай Калешка, Вадзім Сіманаў, Ала Маянская, студэнты кампазітарскага аддзялення Беларускай акадэміі музыкі Ніна Ролік, Яўген Ларывонаў, Максім Круглы.

Вучні Віталя Канстанцінавіча сталі лаўрэатамі міжнародных конкурсаў юных і маладых кампазітараў — Дзінара Мазітава, Валерыя Янкоўская, Ганна Маркевіч.

*Хатні адрас кампазітара : 230005, г.Гродно, ул. Дзержинского, д. 135 а, кв. 60, тел. 31-58-79.*

# ПАД СУЗОР'ЕМ МОЦАРТА

Аднойчы да мяне падышла жанчына і папрасіла паслухаць ігру яе дачкі. Як толькі сямігадовая Дзінара Мазітава дакранулася да клавішаў фартэпіяна дзіцячымі пальчыкамі, я адразу зразумеў: гэтая дзяўчынка надзелена выключнымі музычнымі здольнасцямі.

Пачаліся заняткі кампазіцыяй.

За першы год Дзінара напісала больш за пяцьдзесят п'ес для фартэпіяна, "Лясную сюіту", сюіту "Нязнайка і яго сябры".

Неўзабаве мяне захапіла думка наладзіць конкурс юных кампазітараў, дзе таленавітыя дзеці паказвалі б уласныя творы. Лёс спрыяў маім захадам. Так у Гродне нарадзіўся Міжнародны конкурс юных і маладых кампазітараў "Надзея", прысвечаны класіку беларускай паэзіі Максіму Багдановічу.

На конкурсе "Надзея-92" строгае журы ганаравала Дзінару Мазітаву званнем лаўрэата. Да конкурсу "Надзея-92" Дзінара ўжо напісала дзіцячую оперу "Кветкі пад дажджом". У ёй расказваецца пра тое, як Гандляр употай зрэзаў кветкі, каб прадаць іх. За гэта ён атрымаў заслужанае пакаранне. Асноўная ідэя оперы — прыгажосць нельга купіць альбо прадаць! Твор Дзінары выканалі артысты беларускага ДАВТа, опера "Кветкі пад дажджом" выклікала авацыі, а мэр горада Ліды В.Малец уручыў спецыяльны прыз юнай аўтарцы.

Прайшоў яшчэ адзін год. Дзінара напісала новы буйны твор — балет "Дзюймовачка" паводле казкі Ганса-Крысціяна Андэрсена. Калі дзяўчынка сыграла свой балет спецыялістам-харэографам, яны выказалі захапленне і адразу прапанавалі паставіць яго. Праз некаторы час выхаванцы Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага вучылішча танцавалі на сцэне Гродзенскага тэатра лялек і маленькую Дзюймовачку, і брыдкую Жабу-маці, і сляпога Крата, і добрую Ластаўку. Журы III Міжнароднага конкурсу "Надзея-94" адзначыла балет Дзінары Мазітавай Гран-пры.

Фантазія дзяўчынкі не вычарпалася. Музыка лілася, быццам з рога дастатку. Якія толькі вобразы ў яе не ўзнікалі! Гэта свет прыроды, раслін, кветак, свет жывёл, птушак, рыб, насякомых, свет дзяцей і дзіцячых гульняў, свет песень і танцаў, свет пачуццяў і перажыванняў, і, нарэшце, свет мастацтва — літаратуры, тэатра, кіно.




*Юны кампазітар Дзінара Мазітава*

Паступова Дзінара падышла да складанай філасофскай казкі "Чарадзейная флейта", той самай казкі, што лягла ў аснову апошняй оперы вялікага Моцарта. Мы вырашылі, што трэба стварыць спачатку балет "Чарадзейная флейта", а потым і оперу на тэкст лібрэта моцартаўскага шэдэўра. Балет пакажам на конкурсе "Надзея-96", а оперу... Ёсць мара паказаць яе на радзіме Моцарта — у тым самым тэатры, дзе дванаццацігадовы геній убачыў сваю першую оперу. Да дванаццаці гадоў Дзінара — якой цяпер 11 — закончыць уласную "Чарадзейную флейту", чым выкажа сваю пашану і ўдзячнасць любімаму кампазітару.

Жыццё вымагае арганізацыі новых конкурсаў, напрыклад, для тых дзяцей, якія ствараюць оперы і балеты ў 10 — 15 гадоў. Давайце пафантазіруем і ўявім сабе такі конкурс. Ён мусіць мець імя Моцарта і праходзіць у Зальцбургу. Назавём яго — Міжнародная Мацарціяна. Кожная краіна-ўдзельніца Міжнароднай Мацарціяны павінна будзе прывезці ў Зальцбург оперны ці балетны спектакль свайго вундэркінда. Тады і Беларусь зможа прапанаваць на конкурс оперу Дзінары. Такім чынам наша мара — паказаць "Чарадзейную флейту" на радзіме Моцарта — ажыццявіцца...

Што ж, рэальнасць і мара ў таленавітых людзей непадзельныя. Таленавіты чалавек пераўтварае жыццё вакол сябе. Здаецца, кожны, хто любіць музыку шчыра, хто іграе творы вялікіх кампазітараў або піша ўласныя, усе яны робяць жыццё больш дасканалым і цудоўным.

Музыцы Дзінары Мазітавай уласціва яркая вобразнасць. Яе мелодыі прыгожыя, яе гармоніі простыя, хаця часам сустра-

каюцца складаныя (нетэрцавыя) акорды. Фартэпіянныя фактуры зручныя. Музычныя формы лаканічныя. У творчым стылі юнага аўтара праглядваюцца індывідуальныя рысы незвычайнай асобы. Музыка Дзінары напоўнена святлом, радасцю, прыгажосцю, пазначана пячаткай невычэрпнай фантазіі і натхнення.

Пэўна, яна нарадзілася пад сузор'ем Моцарта. І дай ёй Бог і ў сталасці стварыць цудоўныя творы, дастойныя памяці генія музыкі.

*Віталь Радзівонаў.*
*(З газеты "Літаратура і мастацтва" ад 24 лістапада 1995 г.)*

## Дзінара Мазітава

Пра таленавітую дзяўчынку з Ліды шырокае кола аматараў музыкі даведалася ў 1992 годзе. Яна лаўрэат двух міжнародных конкурсаў — "Надзея-93" і "Надзея-94", што традыцыйна праходзяць у Гродне. На суд строгага журы і кампетэнтнай публікі Дзінара прадстаўляла ўласную оперу "Кветкі пад дажджом", праз год — балет "Дзюймовачка" па аднайменнай казцы Андэрсена.

Усяго кампазітарская работа Дзінары налічвае больш за сотню твораў. Тым, каму пашчасціла быць на ўрачыстым вечары 29 лістапада, прысвечаным 600-годдзю пасялення татараў на землях Беларусі, а таксама высокім гасцям з Татарстана Дзінара Мазітава прыгатавала песні пра татар.

У 1998 годзе мяркуецца адбыцца вялікая імпрэза, галоўнай гераіняй якой будзе кампазітар Дзінара Мазітава. Не забудзьце папярэдзіць сваіх знаёмых, купіце білеты сабе і зрабіце вельмі прыемны падарунак сваім блізкім і родным на гэту незабыўную падзею.

***"Аль-Кітаб"***

Ніжэй мы надрукавалі адін з вершаў Дзінары Мазітавай.



## АЛЛАХ ВЕЛИК !

*Аллах акбар! Какая ночь!*
*У мирозданья на краю*
*Как мне тревогу превозмочь?*
*Молюсь за Беларусь мою.*

*Я не могу сегодня спать,*
*Тревожат звёзды душу мне,*
*И сны мне грезятся опять,*
*О той покинутой стране.*

*Бушует море среди скал,*
*Смывая летописи дней.*
*Солёный и тяжёлый вал —*
*Как слёзы о земле моей,*

*Что грела пращуров моих*
*Горячей крымскою порой,*
*И где святой Корана стих*
*Услышан трепетной душой.*

*Нам стала родиной земля*
*Где лес, болота и туман.*
*В свои объятья приняла*
*Осиротевших мусульман.*

*И обняла их, как родных,*
*Дала приют и сердца жар,*
*Вплетя в историю свою*
*Судьбу мятежную татар.*

*И я, потомок мусульман*
*Аллах акбар, тебя молю:*
*Развей над родиной туман,*
*Помилуй Беларусь мою!*

***Дзінара Мазітава.***

## СТРАНИЦЫ АВТОБИОГРАФИИ

Я, Фаизов Фаяз Рустемович (Фаяз Ростэм углы) родился в 1956 году в г.Казани. Окончил (в 1977 г.) историко-филологический факультет Казанского педагогического института (ныне — педуниверситет). Писать начал в институте, публиковался в институтской многотиражке, с 1975 г. Участвовал, и небезуспешно, в студенческом научном кружке, но творческое начало всё же победило. Одной преподавательнице я даже подарил, по её просьбе, "ноу-хау" одного моего выступления (сейчас не помню названия — что-то о проблемах логического и психологического восприятия слова, говорят, что она успешно защитила по этой теме диссертацию, но сам я не читал). Единственную тройку по литературе, кажется XIX века, я получил в виде мести за опубликованную в институтской много-

тиражке юмореску, где преподаватель узнала себя. Лишившись таким образом стипендии, три месяца проработал охранником на стройке, хотя и не нуждался в деньгах. Однажды я был изгнан с лекции по зарубежной литературе за то, что читал книгу (по этой же, кстати, тематике), одновременно слушая и лектора. В итоге выпускной экзамен, несмотря на блестящий ответ, сдал "лишь" на 4.

Я активно участвовал и в студенческом строительном движении, награждён почётным знаком "Ударник Всесоюзного студенческого строительного отряда", а также путёвкой в Болгарию, где и подарил великодушно свой значок какому-то болгарскому шахматисту турецкого происхождения из города Сливена. В то время в Болгарии ещё выходила газета на турецком языке. Посетил я и роскошную мечеть в городе Пловдиве.

В составе стройотрядов строил КамАЗ, Республиканскую клиническую больницу, Казанский ЦУМ, был обозревателем газеты "Комсомолец Татарстана" по стройотрядам, а также участвовал в выпуске студенческой страницы "Гаудеамус" в этой же газете.

В составе бригады из 6 человек мы поставили абсолютный рекорд КамАЗа и Республики по кладке бетона, приняв и уложив за 5 или 6 часов ночной смены 22 автомашины с бетоном. Сейчас вспоминаю, и просто не верю, как это было возможно?! Всё было как во сне. Помню только мат стоящих в очереди шофёров, гудки машин и беготню с тяжеленными, словно свинцовыми, носилками и застывшие в полусогнутом состоянии пальцы, которыми мы, уже после работы, тщетно пытались взять чайную ложку в стакане чая. Думаю, что нам помогала не только и даже не столько спортивная закалка (многие из нашего специализированного спортивного стройотряда не выдержали и "дезертировали" в Казань), сколько воспитанное в нас с детства трудолюбие и чувство ответственности, традиционно присущие татарам. Кажется, я был единственным из "городских", не отлынивавшим от тяжёлой работы. И за это спасибо моим родителям, а также дедушке и бабушке, которые приучали меня во время каникул к нелёгкому деревенскому труду. А в первый раз к физическому труду я приобщился в 9 классе, когда вместе с другом тайком от родителей разгрузили на товарной станции вагон с шифером, получив за 6 часов работы аж 10 рублей. Домой я пришёл ночью и мне пришлось признаться в "содеянном". Мама переполошилась, а отец, конечно, одобрил, что-то коротко, по-мужски, сказав мне. Купил я себе самый дешёвый фотоаппарат "Чайка" и увлёкся фотоделом, которое забросил только после окончания института, успев, правда, поучаствовать в одной-двух выставках. Кроме фотодела и игры на баяне, увлекался туризмом (лесным и горным), но особенно классической борьбой. Однако у меня хватило ума не пойти в "большой" спорт — эту "колыбель" профессиональных болезней и преждевременной смерти.





*Паэт Фаяз Фаізаў*

Словом, юность у меня была довольно бурной. После окончания института мне предлагали престижное место в Молодёжном Центре при Татарском ОК ВЛКСМ, но я уже был твёрдо настроен на деревню: мне хотелось изнутри ощутить жизнь сельчан, этих терпеливых, извечных кормильцев нашего капризного и взбалмошного общества. И я не пожалел об этом, получив превосходную школу сельской педагогики и журналистики, а говоря более обобщённо — школу сельской культуры, зажатой, но живучей и по-хитрому гибкой. Я убедился, что только крестьянское здоровое начало сможет помочь нам в трудную минуту.

Я работал завучем в сельской школе (чувашское село Хузангаево Алькеевского района Татарстана), где родился и вырос классик чувашской литературы Педер Хузангай (т.е. Казанков, Казанский; Хузан — по-чувашски Казань). Сын Педера Хузангая, Атнер, мой добрый сябр, профессор, является Президентом Чувашского национального конгресса.

С 1978 года я — в профессиональной журналистике. Работал заместителем редактора газеты Алькеевского района Татарстана, радиоредактором Казанского производственного

объединения "Оргсинтез", референтом и литконсультом правления Союза писателей Татарстана, зав.отделом журнала "Идель", старшим литсотрудником журнала "Татарстан", ныне — главный специалист по переводам республиканского информационного агенства "Татар-Информ".

Участник I Всесоюзного семинара молодых переводчиков (1989 г.).

Пишу на русском и татарском языках. Много перевожу, в том числе и с белорусского, чешского, польского, тюркских (кипчакских) языков. Перевёл на русский язык ряд произведений таких ведущих татарских писателей, как Туфан Миннуллин, Рабит Батулла, Махмут Хасан, Айдар Халим, Юнус Миргазиян, Магсум Хузин и другие. Автор поэм на татарском языке "Волшебный рог" и "Сказание о Кундусе". Обе поэмы переведены на белорусский язык и опубликованы в Минске. Готовится к изданию польский вариант "Сказания о Кундусе". По мотивам поэмы "Волшебный рог" написана детская оперетта. По мотивам поэмы "Сказание о Кундусе" создана литературно-музыкальная радиокомпозиция.

Отец, Фаизов Рустам Гимаздинович, 1928 года рождения, уроженец аула Кэшэ (село Елховоозёрное) Цильнинского района Ульяновской (Симбирской) области — это приграничный район бывшей Волжской Булгарии. Город Симбирск был основан булгарским беком Синбиром как крепость (форпост) на границе с Московской Русью. 8 классов сельской школы отец учился по-татарски. Получил средне-техническое образование в Ульяновске, служил, потом 33 года проработал авиатехником на Казанском вертолётном заводе. Кавалер ордена Трудового Красного Знамени. По роду своей деятельности был в долгосрочной командировке в Ираке, где посетил мусульманские святыни в Багдаде и Басре, а также остатки Вавилона. Кстати, его бригада собирала личный вертолёт Саддама Хусейна, ещё до ирако-иранской войны. Пишет "для себя" любопытные стихи по-татарски, которых почти никому не показывает. Очень музыкален. По слуху играет на баяне, гармошке, фортепиано. Ныне пенсионер, садовод. Кстати, его отец, мой дед, Гимаздин Мурсалимович Фаизов, попав в немецкий плен в I Мировую войну, был увезён в числе прочих татар и башкир в Турцию,



где в составе тюрко-татарского легиона (батальона) участвовал на стороне турецких войск в знаменитой Галлиполийской операции по отражению десанта стран Антанты. Как известно, эта битва принесла славу турецкому оружию, и сильно повлияла на ход всей I Мировой войны. В мирное время дед работал поваром в одном из стамбульских ресторанов, изготовлял скобяные изделия (он был отменным кузнецом и жестянщиком). Вернулся на родину после окончания гражданской войны в России, когда была провозглашена Татарская Автономная Республика. По известным причинам он очень мало говорил о своих годах жизни в Турции, хотя частенько на скрипке или мандолине играл турецкие или арабские мелодии. Помню лишь, что он участвовал в младотурецком движении. Считаясь официально российским военнопленным, он накопил "в плену" немалый капитал и с помощью друга — турецкого офицера — бежал с корабля, на котором должны были интернировать российских военнопленных. Этот корабль в открытом море был взорван германской подлодкой. Домой он возвращался через Кавказ. Биография деда будет положена в основу моего рассказа или повести.

Мать, Фаизова (Измайлова) Рида Ибрагимовна, 1928 года рождения, уроженка вышеупомянутого аула Кэшэ. Образование средне-медицинское. 26 лет проработала в одной из стоматологических поликлиник г. Казани. Умерла от тяжёлой болезни в 1984 году. Славилась как искусный кулинар. Хорошо пела, была душой компании.

Супруга, Фаизова (Зяббарова) Гилюся Джаудатовна, 1958 года рождения, уроженка села Чувашский Брод Алькеевского района Татарской Республики. Село Чувашский Брод на 95 % — татарское, есть мечеть. Несколько необычное для татарского села название, по преданию, произошло от того, что в незапамятные времена местные чуваши-язычники переходили вброд в этом месте реку Черемшан, направляясь в священную рощу на моление. В 70-е годы здесь, в окрестностях села Чувашский Брод были произведены раскопки, в результате которых найдены остатки булгарского феодального замка. По горькой иронии судьбы, на месте городища, где жили когда-то наши предки — мусульманские тюрко-булгары — ныне нахо-

дится свиноферма (!).

Гилюса закончила Казанское фармацевтическое училище, работала в аптеках. Любит и умеет собирать лекарственные травы. Хорошо поёт, почти профессионально. Она — первый критик моих произведений или художественных переводов.

Дочки — Лейсан (в переводе — первый весенний мелкий дождь) 1979 г.р. и Лейла, 1986 г.р. Старшая, Лейсан, побывала в мусульманском лагере под Минском вместе со своими белорусскими соплеменниками, с благодарностью вспоминает те дни, по пятницам не забывает читать суры из Кур'ана.

**Фаяз Фаизов.**

# БАБУЛЯ МАЯ БЫЛА З БЕЛАРУСІ, З РОДУ ДАВІДОВІЧАЎ

Наш сябра Фаяз Фаізаў хоча дапамагчы Лэйлэ Джыгангіравай адшукаць радню сярод літоўскіх татараў. Спадзяецца, што "Байрам", які чытаюць татары ў Беларусі, Літве і Польшчы, надрукуе артыкул, які і паслужыць добрай справе.

Артыкул пра Давідовічаў, княжат, змешчаны на 94 — 97 старонках "Гэрбажа родзін татарскіх у Польсцэ", даведніку, складзенага і апублікаванага ў 1929 г. Станіславам Дзядулевічам, 12 фотаздымкаў (ксеракопій, якія на жаль мы не можам надрукаваць) — усё гэта сведчыць, што можна спадзявацца на тое — радня адгукнецца. Па ўскосных дадзеных можна меркаваць, што ў час Першай сусветнай вайны, калі ў Прывіслінскім і Паўночна-Заходнім краях пачаліся баі, татары, у тым ліку Давідовічы і Вільчынскія, эвакуіраваліся ў Казанскую і Уфімскую губерні, а сярод іх і продкі (прабабка і прадзед) Лэйлэ.

Думаем, што пераклад артыкула пра Давідовічаў з "Гэрбажа", будзе цікавым для многіх нашых чытачоў, а таму без скарачэнняў друкуем яго на гэтых старонках, але ў беларускім перакладзе. Калі хто-небудзь з радні знойдзецца, то пішыце на адрас: 420126, Российская Федерация, Татарстан, г.Казань, ул.Четаева, д.11, кв.88, Фаизову Фаязу.



***ДАВІДОВІЧЫ***, княжаты, герба Страла, прыдомак "Кган-Манцар" (паводле Бараноўскага — Кан-Мансур), род нагайскага паходжання, які прыбыў на Літву ў другой палавіне XV стагоддзя. Продкам яго быў Давід, які каля 1480-га года атрымаў ад караля Казіміра Ягелончыка незаселеныя землі ў Лідскім павеце, якія пазней назвалі Давідоўшчынай. Сынам Давіда быў Мустафа бо Мустапа, які жыў каля 1500 г., надзелены зямлёю ў Менскім павеце, якую загаспадараваў і назваў Муступічамі, унук жа Давіда, Адам, гаспадар Давыдоўшчыны каля 1525 г., заснаванага ім пасялення Адамовічаў, пакінуў двух сыноў: Абдрухмана і Салтана. Салтан даў пачатак сям'і Адамовічаў, што ж тычыцца Абдрухмана, які ўпамінаецца ў перапісе 1565-га і 1567-га гадоў, то ад жонкі Айшы з Курмановічаў меў чатырох сыноў: Багдана, які ўпамінаецца ў 1598-м, Шана бо Шануця, Мустафу і Рачыпа. Два апошнія ў 1600-м прадалі Андрэю Астравухаму дзве часткі на Беніцы, відаць, атрыманыя ў спадчыну ад маткі. З раней названых Абдрухманавічаў Багдан нашчадкаў не пакінуў, Шан быў бацькам Шабана і Міташа, Мустафа — Ісупа і Алея, Рачып урэшце — Адама, Ібрагіма і Смаіла, усіх упамянутых у рэвізіі татарскіх уладанняў у 1631 г., як саўладальнікаў Давідоўшчыны і частак у Сабалюнцах і Немежы. Сынам аднаго з іх быў Саламон (Сулейман), у 1666-м упамянуты як сведак пры падзеі продажу часткі Папорцяў праз Уладыслава Таньскага Сюлейману Азулевічу, а ўнукамі — Раман, які пабраўся з Марусяй з Ельяшэвічаў, які загінуў пры баку караля Яна III у 1684 г. ў бітве пад Язлоўцам, каторага завяшчанне падае Сыракомля як тыповы дакумент з жыцця літоўскіх мусліман, і брат яго Білял, спадчыннік па Рамане часткі ў Немежы (адзін з іх у 1730-м годзе фігуруе ў вайсковых спісах як таварыш у лёгкім палку конніцы ў дывізіі булавы польнай кароннай ). У палавіне XVIII ст. паяўляюцца на арэне: Абдуллаг, або Себастыян Давідовіч, у 1750-м уласнік часткі Сорак Татар; сынам яго быў Давід, а ўнукам Шабан, ці Самуэль, у 1773 г. таварыш у палку перадавой стражы літоўскага войска, а пасля харунжы ў татарскім палку. Гэты апошні меў чатырох сыноў: Мустафу, у 1782 г. ротмістра, у 1800 г. маёра расійскай арміі, Самуэля, або Шаба-

на, у 1794 г. афіцэра Касцюшкаўскай арміі, Аляксандра, у 1792-м харунжага і Эльяша, у 1790 г. таксама харунжага. Да гэтай сям'і належаў Ян, у 1788 г. харунжы. З чатырох братоў Мустафа меў сына Мацея або Махмета, пагранічнага суддзю Навагрудскай зямлі; Самуэль меў сыноў: Яна, падпалкоўніка расійскай арміі, напэўна, былога паручыка польскага войска, а пазней пагранічнага суддзю ў тым жа павеце і Шабана, або Самуэля, які ў 1819 г. даказаў сваё шляхетства перад Віленскай дэпутацыяй з гербам Страла. Адначасова з тымі апошнімі жыла сястра Эльжбета. па мужу Бахматавічова, тут жа нейкі ўласнік Хажэлі на Палессі, бацька Сяліма, палеглага ў 1871 г. ў Францыі, прыяцеля маладых гадоў Генрыка Сянкевіча, увекавечанага майстрам у яго бліскучых мініяцюрах "Ганя" і "Сэлім-Мірза", Ян і Якуб, сыны Самуэля, а ўнукі Шабана, у 1803-м прадалі Сорак Татар Аляксандру Давідовічу, а ў 1805-м набылі пры польскім двары Савошы-Палужжа. Якуб меў сыноў: Аляксандра і Тамерлана. Першы з іх ад жонкі Міхалоўскай меў двух сыноў: Стэфана і Якуба. Стэфан, у якога была жонка крымская татарка, быў галавой горада Бахчысарая і Алушты, дзе памёр у 1914 годзе, акружаны ўсеагульнай любоўю і пашанай крымскіх татар, меў пяцёра дзяцей: дочкі Аміня і Мір'ям, Рузя і сыноў — Якуба, у якога была жонка з Нагаевых, і Сайтара. Якуб, генерал-лейтэнант рускай арміі, вайсковы юрыст. Тамерлан валодаў Палужжам, якое прадаў, і Чырвоным Борам у Барысаўскім павеце, быў начальнікам акцызу ў Кобрыне, памёр у 1897 г., ад жонкі Эльжбеты Туган-Бараноўскай меў трох дзяцей: сына Яна, жанатага, жонка Гелена Вільчынская (гэты прадаў атрыманы па бацьку Чырвоны Бор і куплены маёнтачак Пціч, у Менскай зямлі), дачку Гелену, якая была замужам за інжынерам камунікацыі Канстанцінам Якубоўскім, і дачку Марыю — была замужам за Аляксандрам Крычыньскім, павятовым суддзёй Ашмянскім. З дзяцей Яна — Тамерлан, памёр, маючы 22 гады, сын Ян памёр, маючы 20 гадоў, сын Якуб, мытны службовец з Варшавы, і дачка Тамара, якая была замужам за Зіем Мустаевым (Казань).



# ХІРУРГ

***(Да першых угодак са дня смерці земляка Якубоўскага Хасана Мустафавіча)***

## *Звычайная сям'я*

Здавён-даўна жылі ў Мядзелі Якубоўскія. Хата Якубоўскага Мустафы Азізавіча стаяла насупраць мячэці (зараз завулак Міра). Азізавіч быў патомным рымарам. Хамуты, падсядзёлкі, шлеі, аброці, лейцы, зробленыя рукамі Якубоўскага, карысталіся вялікім попытам у сялян, бо былі зроблены дабротна і адмыслова. Атрымоўваў ён і ваенныя заказы — рабіў кавалерыйскія сёдлы. Стары Азюль (як яго пяшчотна звалі дамашнія) дбайна сачыў, каб "марка" вырабаў Якубоўскіх была бездакорнай.

У будзённых клопатах і працы цякло жыццё гэтай працавітай сям'і:араблялі на хлеб і да хлеба. Перадваенны фотаздымак Мустафы Азізавіча і яго жонкі Розы Магаметаўны. З партрэта горда глядзіць 25-гадовы малады чалавек з характэрнымі цюркскімі рысамі твару і 18-гадовая маладзіца, выраз твару спакойна-спагадлівы, дзве тоўстыя цёмныя касы...

1939 год. Бяда няўмольна ўрываецца ў хату Якубоўскіх.

— Памятаю, у чацвер прыйшла павестка ісці мужу на вайну, — успамінае Роза Магаметаўна. — Сабраў сяржант кавалерыі Мустафа ўказаны рыштунак, развітаўся з сям'ёй і больш не вярнуўся. Я і да сёння не ведаю, дзе ён паклаў сваю галоўку. Сыну Хасану (Хусейну) быў 1 гадок і 2 месяцы, сама была цяжарная другім дзіцём, пайсці ў пошукі мужа не змагла. Адны, што служылі з ім, гаварылі, што загінуў ад нямецкай бомбы ў час фарсіравання ракі, другія — што папаў у палон і як сяржант польскай арміі забіты ў Катыні...

Адна бяда не ходзіць. У час сутычак партызан з немцамі Мядзельскага гарнізона згарэла хата. Толькі дзяцей удалося ўратаваць: адзенне, ежа, другія здабыткі загінулі ў полымі. Сям'я перабралася ў вёску Баяры да бабулі. Жылі ў цеснаце, але не ў крыўдзе, дзяліліся апошнім кавалкам хлеба, увогуле ўсім, што мелі. Айчым быў добрым, спагадлівым чалавекам.


*Хірург Хасан Якубоўскі*

Хасан падрос, пачаў наведваць Баярскую пачатковую школу. Вучыўся добра. У 5-ты клас пайшоў у Мядзельскую СШ. Пешшу, у дождж і завею дабіраўся хлапчук да школы. Скончыў тут 8 класаў. Каб Хасану і меншаму Якубу было бліжэй хадзіць у школу (ды і самой Розе Магаметаўне падвярнулася работа), сям'я пераехала ў горад Паставы. Тут Хасан у Пастаўскай школе № 2 атрымоўвае сярэднюю адукацыю.

## Пошукі месца ў жыцці

Бацька не паспеў перадаць сыну патомную прафесію, ды і час змяніўся, попыт на працу рымара ўпаў. Юны Хасан пачынае пошук свайго месца ў жыцці. Каб зарабіць кавалак хлеба, ідзе працаваць на энергапоезд. Але гэта работа не задавальняла яго. Хацелася мець такую прафесію, каб быць максімальна карысным і патрэбным людзям. Выбірае медыцыну. Разлічваць можна было толькі на ўласныя сілы. І вось ён у Віцебскім медыцынскім інстытуце. Можна было толькі здагадвацца, як яму жылося, апіраючыся толькі на сваю стыпендыю. 1963 год. У руках дыплом медыка. Мара збылася! Вяртаецца ў Паставы. Тут яго назначаюць урачом станцыі хуткай дапамогі. На працягу 5-ці год ён у белым халаце з'яўляўся анёлам-выратавальнікам у кватэрах хворых і ратаваў іх. Яшчэ 7 гадоў аддаў паталага-анатоміі, будучы загадчыкам аддзялення. Пачынаючы з 1971 г. на працягу 11 год працуе загадчыкам хірургічнага аддзялення Пастаўскай раённай цэнтральнай бальніцы.

## Узлёт

1983 год. Хасан Мустафавіч — хірург. Ён аказаўся чалавекам унікальнага таленту, віртуозна валодаў скальпелем, ратуючы жыцці сотням людзей. Яму быў характэрны востры "душэўны зрок", ён умеў выклікаць да сябе прыхільнасць хворага, прымусіць паверыць пацыента ў абавязковае і хуткае выздараўленне. Урач высокай кваліфікацыі заслужана карыстаўся аўтарытэтам у медыкаў і хворых. Загадчыца Пастаўскай дзіцячай бальніцы З.У. Петух сцвярджае: "Калі 13-гадовай Аксане Касцень ён зрабіў складаную аперацыю (разліты апендыцыт), то сам Хасан Мустафавіч дзень і ноч сядзеў ля пасцелі хворай, сачыў за станам яе здароўя, даваў лекі. Дзякуючы яго самаахвярнасці, дзяўчынка хутка стала на ногі, ніякіх ускладненняў пасля аперацыі не было".



Уладзімір Міхайлавіч Соўка, пенсіянер, былы дырэктар Пастаўскай СШ: "Я ведаў Мустафавіча з 1963 года. Ён валодаў не толькі шчаслівым для пацыентаў дарам урачавання, але і зайздроснай працаздольнасцю і працавітасцю. Я ляжаў у 1993 годзе ў бальніцы і спаўна адчуў яго чалавечнасць і спазнаў прафесійнае майстэрства".

Віктар Шурпік, пенсіянер, у мінулым шафёр дома інвалідаў для душэўна хворых: "Урачэбная дабрыня — самыя эфектыўныя і незаменныя лекі. Мустафавіч імі ўмела карыстаўся". Рускі псіхіятар Бехцераў гаварыў: "Калі хвораму ад размовы з урачом не стала лягчэй, то гэта не ўрач". Хворыя пасля распытаў аб іх хваробе гаварылі пра Якубоўскага: "Толькі пагаварыў, а ўжо лягчэй стала". Такі ён быў чалавек, з такімі выдатнымі чалавечымі якасцямі.

## Апошні дзень

Раніцай 20 лютага 1997 года Хасан Мустафавіч, як заўсёды ішоў на работу, шчыра вітаўся са знаёмымі і шчыра адказваў на прывітанні многіх удзячных сваіх пацыентаў. Як звычайна, зайшоў у ардынатарскую і пераапранаўся, перагаварыў з калегамі, яшчэ раз уважліва перагледзеў гісторыю хвароб пацыентаў і пайшоў у аперацыйную. Некалькі гадзін прастаяў каля аперацыйнага стала і зрабіў тры планавыя аперацыі.

Пасля абеду ўсіх абляцела горкая вестка — хворае сэрца самога хірурга перастала біцца...

*На Гірынскім мізары*

Сотні людзей ішлі за труной Хасана Мустафавіча з найвялікшым шкадаваннем страты сапраўднага ўрача-прафесіянала, шырокай душы чалавека. На Гірынскім мізары (могілках) на беразе сінявокага возера Мястра грудок жоўтага пясочку. Тут спачывае прах нашага земляка. На Мядзельшчыне пачаўся, тут і закончыўся яго зямны круг. 20 лютага споўніцца першая гадавіна са дня смерці гэтага Чалавека.

Успомнім Яго імя добрым словам!

*Маці*

Маці Хусаіна Мустафавіча жыве ў Паставах па Ленінскай 69/3. Адна. На другі паверх, дзе яе кватэра, вядуць дашчатыя прыступкі.

Я звярнуў увагу, калі Яе сухенькія працавітыя рукі перабіралі ў каробцы сямейныя фотаздымкі, то ў той час, як яна гартала фотаздымкі сваёй маладосці, сяброў, родзічаў, твар яе свяціўся нейкім таемным святлом.

Памяць асвятляла яе аблічча.

*28 снежня 1997 г.* ***Яська Драўніцкі.***

## ЗАМАН-ЧАС

***Заманны хорчала! — Беражы час!***

***(Словы ад Ісмаіла Меметава. 29.11. 1997 г.)***

**Крымскататарскае слова** **Беларускае слова**

Санне ............ секунда
Даккъа ............ мінута
Саат ............ час
Саатлер ........... гадзіны
Кунь ............ дзень
Саба ............ ранак
Улле ............ абед
Акъшым .......... вечар
Яз ............ лета
Куз ............ восень
Асыр ............ век, стагоддзе
Асырлар ....... вякі, стагоддзі
Эски заман ... стары час
Эски заманлар ...... старадаўнія часы
Янъы заман .......... новы час



Геджэ ............ ноч
Афта ............ тыдзень
Ай ............ месяц
Йыл ............ год
Къыш ............ зіма
Баар ............ вясна
Ярыкъ .......... светла
Янъы заманлар .... новыя часы
Эрте ............ рана
Кеч ............ позна
Кунеш ............ сонца
Караныкъ ............ цёмна

***Крымскататарская народная песня***

*(прапанаваў надрукаваць у "Байраме" І. І. Меметаў)*

## АЗБАРЫНДА ЧОКЪРАГЪЫ БАР

*Азбарында чокърагъы бар да, вай, вай, вай,*
*Не де салкъын сую бар да, вай, вай, вай.*
*Эки де дульбер къызы бар да, вай, вай, вай,*
*Били санъа, бири де манъа, вай, вай, вай.*

*Азбарында акъ тана да, вай, вай, вай,*
*Къызым бар, деп макътана да, вай, вай, вай.*
*Макътанса да ери де бар да, вай, вай, вай,*
*Янагъында бенъи де бар да, вай, вай, вай.*

*Джувурып кирдим эвине де, вай, вай, вай.*
*Къамчым ильдим чуюне де, вай, вай, вай.*
*Къамчым башы къалайлы да, вай, вай, вай,*
*Къомшу къызы къолайлы да, вай, вай, вай.*

## У ДВАРЫ Ў ЯГО ЁСЦЬ КРЫНІЦА

*У двары ў яго ёсць крыніца, вай, вай, вай,*
*Ах, якая халодная вада ў ёй, вай, вай, вай.*
*Дзве дачкі-красуні ў яго ёсць, вай, вай, вай,*
*Адна табе, другая мне, вай, вай, вай.*

*У дварьі ў яго беленькае цяля, вай, вай, вай,*
*Красуняй-дачкой хваліцца ён, вай, вай, вай.*
*Хвалы яна вартая на самай справе, вай, вай, вай,*
*Яе шчокі як дзве пунцовыя ружы, вай, вай, вай.*

*Я зазірнуў да іх у хату, вай, вай, вай.*
*Пугу павесіў ля дзвярэй, вай, вай, вай.*
*Пуга мая аздобленая, вай, вай, вай,*
*Суседава дачка вельмі выгодная, вай, вай, вай.*

## ПАЭТЫЧНАЯ СТАРОНКА

### СОЕКЛЕМЭ

*Стихотворение* ***М. Джалиля,***
*перевод* ***Н. Камалетдинова.***

Очень долго от меня не будет
Ни письма, ни весточки иной.
Уходящий след песок задует,
Стежка-тропка зарастёт травой.
В чёрном, исхудавший и печальный,
Стану я тебе являться в снах,
И последний поцелуй прощальный
Горечью застынет на устах.
Ожиданьем долгим истомишься,
Изболится сердце, и в душе
Может, ты в один из дней решишься
Допустить, что умер я уже.
И тогда, утратив безвозвратно
Ту любовь, что чувств иных сильней,
Без предупреждений и внезапно
Я уйду из памяти твоей.
Может, только в этот миг тревожный
Боль души я не смогу сдержать.
Смерть — и та лишь в это время сможет
Одолеть меня, мой путь прервать.



Ведь меня хранило и спасало
Это ожидание твоё.
И любовь волшебным талисманом
Защищала в пламени боёв.
Пусть порою падал, но в сраженьях
Клятве "Победить!" я верен был,
Шёл вперёд без страха и сомненья,
Для победы не жалея сил.
Долог бой, и нет конца похода,
Жди и верь, наперекор судьбе,
Сквозь разлуку, сквозь огонь и воду
Возвратится твой джигит к тебе.

## Асеннія вершы Браніславы Лапкоўскай

Дзесь бяроза гнецца голейкам да долу,
І каштан адзеўся ў кветкавы каптан,
Веснічкі і студня, хатка ўжо кволая,
Пахіліўся нізка ўжо стары паркан.
Сад стары сумуе...
Гады сабе лічыць,
Порахам прапахла
Крона тут яго.
Так ён і праходзіць, век наш, дагарае...
Так яно праходзіць усё наша жыццё.
Родная лагвіна порахам прапахла,
Бяроза старая і буслава гняздо.

***

А за вакном шумяць дажджы ...
І лісце кволае пасыпалася к долу
У коміне гудуць вятры,
А птахі адлятаюць у гору.
У паднябессі клінам журавы,
Крыніц журчанне раптам заціхае.
А дзеці бегаюць яшчэ цераз равы,
Пакуль іх восень з летам не развітае.

Лясы прыбраліся ў кветкавы каптан,
Ім так цяпер прыгожа і святочна.
Ля хаты пахіліўся стары ўжо паркан,
Як бы ўлёгся спаць нібы нарочна.
А сад стары сумуе дзесь адзін,
Ды як яму застацца тут зімою,
Калі надыдуць туманы і бураны,
У памяці маёй і ў сэрцы ўсё са мною.

## ПОШТА КВАРТАЛЬНІКА

### ДА ЎДЗЕЛЬНІКАЎ КАНФЕРЭНЦЫІ Ў ВАРШАВЕ

*Салям алейкум, нашы сябры і супляменнікі !*

У сувязі з 600-годдзем пасялення татараў на землях Беларуска-Літоўскай Дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага кожная татарская сям'я думае аб тым, чым яна адзначыць гэты юбілей. Нехта адважыцца і напіша верш, складзе песню, нехта нешта нарысуе-намалюе, нехта паедзе ў Навагрудак, Іўе, Смілавічы, некаму пашанцуе паехаць у Літву і Польшчу. Нехта будзе прымаць у сябе гасцей, а нехта раскажа сваім суседзям пра гісторыю татар.

Гісторык і географ (двойчы доктар навук) Леў Мікалаевіч Гумілёў сярод цікавых і глыбокіх думак трактуе адно палажэнне: кампліментарнасць. Прычына таго, чаму адзін народ прыязна ставіцца да другога — нельга растлумачыць. Кожны можа назіраць, як у калектыве (не хочацца тут ужываць слова "зграя") птушак аднаго віду трапляецца некалькі асобін другога віду, яны разам шукаюць корм, разам дзяўбуць, пра нешта грагаючы.

Вось так можна сказаць і пра наша становішча. Сярод беларусаў, асабліва сярод свядомых беларусаў, татарын адчувае сябе зусім утульна і нават ахавана. Калі нейкі неразумны манкурт пачынае гаварыць ці нават чапаць татарына, то свядомыя беларусы заўсёды заступаюцца за татарына.

Наш адзін татарын (а можа і не адзін) спрабуе нешта рабіць да яшчэ адной важнай падзеі — 200-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча (нарадзіўся 24.12.1798 г. на хутары Завоссе каля Навагрудка ці ў Навагрудку). Ён сказаў: Адам Міцкевіч так многа зрабіў для палякаў, беларусаў і габрэяў, што ад яго дабрыні шмат засталося яшчэ і для татараў. Трэба перачытаць усё, што надрукавана з яго твораў, у тым ліку лекцыі па славяназнаўству, яго лісты. Ён мне сказаў, што яго вельмі ўразіла тое, якім чынам Міцкевіч вырашае пытанне, калі трэба сказаць пра нешта адмоўнае пра не зусім дружалюбны народ. Там, дзе рускі чалавек скажа: "азіятчына", "татаршчына", там Міцкевіч абыходзіць гэтыя словы, замяняе іх "мангольшчына", а так як у польскай мове далікатна ставяцца да нацыянальнасці, то і пішуць яе з вялікай літары.



Вось, напрыклад, разважанні Міцкевіча пра характар і паступкі рускай імператрыцы, царыцы Кацярыны II. Яна называлася Соф'я Ангальт-Цэрбская. Міцкевіч даводзіць, што Цэрбская — гэта Сербская (Сорбы — лужычане, славяне), у яе ментальнасці ёсць шмат славянскіх рысаў, нават мангольскіх. Вядома, гэта сцвярджэнне можа і не вытрымае навуковага аналізу. Тут бы рускі, на ўсякі выпадак, адзначыў бы ў той царыцы нешта з татарскай азіятчыны, а Міцкевіч напісаў пра мангольскія рысы яе характару. Гэта каб не настройваць сваіх чытачоў супраць татар, каб як бы раскрыць парасонік і ўзяць пад сваю ахову татар. Вядомы прыемныя для татар выказванні ёсць у брата Адама Міцкевіча — прафесара гісторыі Харкаўскага універсітэта.

Міцкевіч распачаў, але не распрацаваў драматычны твор, галоўным героем якога павінен быў быць рамантычны чалавек — паэт, рэвалюцыянер, генерал-лейтэнант татарын Якуб Ясінскі, узнагароджаны Касцюшкам найвышэйшай узнагародай. Загінуў ён гераічнай смерцю на Варшаўскай Празе.

Дык вось што кажа той татарын, стары ужо і з прычудамі. У вянок да Адама Міцкевіча, які спляце польскі, беларускі і габрэйскі народ, вельмі дараіла б і татарская кветачка.

Спяшайцеся. У Навагрудку будзе, відаць, шанаванне Міцкевіча да 200-годдзя з дня яго нараджэння. Спяшайцеся татары нешта зрабіць да гэтай даты.

Гэты татарын кажа, што балада Міцкевіча "Поврут таты" некалі выратавала ад смерці яго бацьку. Нямецкі паліцай, ад

Казакевіч Сулейман, актыўны ўдзельнік рэлігійных мерапрыемстваў у Клецкай абшчыне. Пахаваны на Клецкім мізары;

20 лістапада 1997 г. — Трагічна загінула Мініханава Верыя Рашыдаўна, пражыла 46 гадоў, жыла з сям'ёй у Асіповічах, там і пахавана па мусульманскім абрадзе;

Снежань 1997 г. — трагічна загінула Хасяневіч Роза, 49 год, Смілавічы;

Снежань 1997 г. — у Мінску памёр Якубоўскі Бекір Хусяінавіч, 1938 — 1997 гг., які працаваў намеснікам дырэктара па эканоміцы ў будаўнічай арганізацыі. Пахаваны ў Смілавічах. Сам родам з Клецка.

7 снежня 1997 г. — памёр на 82-гім годзе жыцця актыўны дзеяч татарскага адраджэння на Беларусі, адзін з заснавальнікаў і член Праўлення Беларускага аб'яднання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" Меметаў Ісмаіл Ісмаілавіч, які, нарадзіўшыся на Крыме, праслужыў у войску і прайшоў усю вайну ад Далёкага Усходу і да Нямеччыны, а застаўся жыць на Беларусі і апошнія гады ў Мінску, дзе і пахаваны па мусульманскім звычаі;

19 снежня 1997 г. — памерла ў Клецку на 81-м годзе жыцця Танзіля Александровіч, з дому Рафаловічаў. Пахавана на Клецкім мізары;

22 снежня 1997 г. — памёр у Клецку Бекір Рафаловіч (1910 — 1997 гг.), родны брат Танзілі Александровіч, адзін з апошніх шчырых мусульман абшчыны, які сваім прыкладам падтрымліваў духоўнае жыццё ў абшчыне, актыўна ўдзельнічаў на працягу ўсяго свайго жыцця ў рэлігійных і грамадскіх абрадах і мерапрыемствах. Пахаваны на Клецкім мізары.

## ПРЫЕМНЫЯ ВЕСТКІ

1. Высакародны ўчынак, які вызваў пачуцці ўдзячнасці і пашаны у мусульманскай абшчыны г. Клецка, зрабілі перад Новым годам мясцовыя ўлады г. Клецка — старшыня Райвыканкама Рубанік Анатоль Мікалаевіч, старшыня і намеснік старшыні Клецкага гарадскога Савета. Па іх даручэнні і падтрымцы былі выдзелены матэрыялы і рабочыя, якія паставілі



агароджу вакол мусульманскага мізара (могілак), што знаходзіцца ў Асмолаве, за 7 км ад Клецка. Кіраўнік і імам абшчыны Ждановіч Я. І. ад імя мусульман Клецка выказаіў глыбокую падзяку ўладам за клопаты пра сваіх грамадзян-татараў, якія ў 1997 г. адзначылі свой вялікі юбілей — 600-годдзе пасялення на землях Беларусі.

Упраўленне (муфтэят) Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь далучаецца да гэтай падзякі за добрую справу і з большым аптымізмам бачыць будучае нашага адраджэння.

Дзякуй добрым людзям за добрыя справы і намеры!

***

2. Кіраўнік мусульманскай абшчыны г/п Відзы Гембіцкая Мяр'ема Адамаўна падзялілася радаснай весткай — улады купілі невялікі дом і перадалі абшчыне ў бязвыплатнае карыстанне ўзамен за дом, які належаў абшчыне ў даваенныя гады і ў якім цяпер жывуць 3 сям'і. Абшчына, а разам з ёй і кіраўніцтва аб'яднанняў — рэлігійнага і "Аль-Кітаб" — выказваюць глыбокую падзяку ўладам Віцебскага Аблвыканкама, Відзаўскага пасялковага Савета за тое, што яны стрымалі сваё абяцанне, і за добры падарунак мусульманам да Новага года. Гэта яшчэ адзін добры прыклад клопатаў органаў улады пра сваіх грамадзян. Гэта яшчэ больш дорага таму, што робіцца ў даволі складаны для эканомікі краіны час. Мы гэта цэнім і з яшчэ большай павагай ставімся да сваіх улад. Толькі так — пры ўзаемнай падтрымцы адзін аднаго — краіна стане на ногі і зможа дасягнуць хутчэй сваіх мэт і вышынь.

Больш бы такога ўзаемаразумення і ўзаемадапамогі!

***Прыняты ў Іслам :***

— Прокаповіч Таццяна Адамаўна, 19 год, беларуска, Мінск;

— Александровіч Аляксандр Шамільевіч, 20 год, татарын, Відзы;

— Александровіч Аляксей Шамільевіч, 17 год, татарын, Відзы;

— Гасюль Тамара Аляксееўна, Верхнядзвінск, Віцебскай вобл.;

— Крыніцкая Эльміра Ібрагімаўна, 22 гады, татарка, к/п Нарач;

— Арнус Аліса Аляксандраўна, 17 год, беларуска, Мінск;

— Пазняк Алена Міхайлаўна, 23 гады, беларуска, Мінск;

— Кунцэвіч Алена Генадзьеўна, 22 гады, беларуска, Мінск;

— Платонава Алена Эдуардаўна, 19 год, руская, Магілёў.

*Азан (абрад імянарачэння):*

— Мухамадаў Мейліс, сын, 3 тыдні, бацька — Бегмухамед, мама — Аманбілі, туркмены, Мінск ;

— Эміль Барлыбаеў, сын, 2 месяцы, бацька памёр, мама Асія Мірзагарэева, Мінск ;

— Амэль Кхэміджа, дачка, 3 месяцы, бацька — Кхэміджа Камель (алжырац), мама — Кхэміджа-Пашкоўская Інэса, беларуска, Мінск ;

— Саллі-Караліна, дачка, 2 месяцы, і Марыям-Магдалена, дачка, 2 гады, бацька — Гамаль Абдула Мухамад аль-Сакафф, мама — Святлана аль-Сакафф, Мінск.



## ЗМЕСТ

# Байрам

**ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ**

**КВАРТАЛЬНІК БЕЛАРУСКАГА ЗГУРТАВАННЯ ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН "АЛЬ-КІТАБ"**

№ 4, 1997 г.

Компьютерная вёрстка: О.И.Жук

Подписано в печать 23.02.1998 г.
Формат А5. Бумага для ксероксов. Гарнитура "Таймс".
Тираж 300. Зак.09.

Отпечатано в ПКП "Арти-Фекс", лицензия ЛВ 662,
220072, г.Минск, ул.Ф.Скорины, 1-130.
Тел/факс (017) 231-49-72.